ГОД VII СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 52
1953 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

## ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VII. № 52 Janvier-Février 1953
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1953 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 10 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 8 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44 R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI[e].**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981, 4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

## КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 150 фр.— 4 шыл.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутны Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах (друг. выд.) 450 фр. — 13 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 2000 фр. — 2 ф.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.**

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі: **R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**УВАГА!**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асабісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

## З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ.

Гдзе добра, там паматгатых многа.

Гдзе жывуць жыкаўцы (сварлівыя), там Бог адступіўся, а гдзе якаўцы, там Бог жыве.

Гдзе любяць — не ўчашчай, а гдзе ня любяць — і нагою не накладай.

Гдзе недагляд, там заўсёды даклад.

Гдзе проста, там анёлаў са сто, а гдзе многа зацей, там сто чарцей.

Гдзе сын адзін, дык і той ня людзін.

Гдзесь за морам, гдзесь на востраве, там кабан жыве, лычам арэ, нагамі баранує, хвастом сее. За ім пшаніца родзіць. Дзед стары хозіць, пшаніцу зьбірае, калачы пячэ і ўсю вёску корміць, да нам таго ня знаць, нам таго ня бачыць. (Там добра, дзе нас няма).

Гні дубіну пакуль маладая.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».

**Апошнім часам прыслалі**

Асімовіч Я. 780 фр., Балтрусэвіч В. 400 фр., Быковіч Я. 250, Крывашэс С. 350, Лашук А. 485, Малышчук С. 650, Місуно Ул. 180, Міхалюк Я. 240, Пітушка Я. ад Б. Н. А. 800, Пузоўскі В. 500, Рамаўскі Я. 500, Саўко У. 970, Сенкевіч В. 485, Сенкевіч Г. 485, Скрыньнік М. 485, др. М. С-к 800, Спічонак В. 510, С-ко А. 800, Хвалько Л. 485, Цыбульскі Э. 1000, Шацько А. ад групы Бэльгіі 2100, Яцкевіч Г. 500, Яцкевіч Д. ад групы Аўстралія 2425 фр.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ № 52.

# Энцыкліка для прасьледаваных

Дня 15 сьнежня мінулага году папа Пій XII выдаў пастырскі ліст-энцыкліку, ведамую пад назовам «Orientales Ecclesias» (Усходнія Цэркві).

У галоўных пунктах Энцыкліка датычыць каталікоў усходніх абрадаў так у мінулым, як і сёньня. Не забывае аднак Сьвяцейшы Айцец і аб хрысьціянах, якія на вялікі жаль зьяўляюцца ў гэты час разьеднаныя з каталікамі.

Гэты не малое вагі папскі дакумант, прынамся пасрэдна, адносіцца і да нас беларусаў. Падамо тут у скароце важнейшыя яго часткі.

На пачатку Энцыклікі гаворыцца аб тым, што Папа з асаблівай любоўю адносіцца да ўсходніх Цэркваў, якія ясьнеюць навукай сьвятых Айцоў і якія на пачатку хрысьціянскае эры, у пазьнейшых часох і ў сучаснасьці сьцякаюць кроўю мучанікаў.

Далей Сьвяцейшы Айцец прыпамінае, што ён ад пачатку свайго ўзыходу на Апостальскі Пасад меў асаблівую ўвагу адносна каталікоў усходняга абраду, а так-жа зьвяртаўся да ўсіх тых, што знаходзяцца па-за Каталіцкай Царквою, каб як найхутчэй вярнуліся да адзінай супольнай аўчарні Айца.

Выявам любові папы да Усходніх Цэркваў было між іншым назначэньне армянскага патрыярха ў кардынальскую годнасьць, падрыхтаваньне і выданьне матэрыялаў да кодэксу кананічнага права для Усходніх Цэркваў і інш.

У сучасны мамэнт асаблівай турботай для Сьвяцейшага Айца ёсьць п р а с ь л е д а в а н ы я, «бо-ж цімала ёсьць краінаў, дзе квітнеюць перадусім усходнія абрады, а ў якія сёньня ўварвалася бура зла, якая намагаецца збянтэжыць, выкараніць і зьнішчыць красуючую хрысьціянскую грамаду»... «Калі ў мінулым рабіліся напады на якісьці асобны догмат каталіцкае навукі, дык сёньня зусім інакш: лёгкадумна ідзецца куды далей, робяцца намаганьні выкінуць з грамадзкага жыцьця, з сем'яў, унівэрсытэтаў, школаў і агулам з усяго жыцьця людзей усё тое, што Божае, або мае сувязь з Богам, быццам яно зьяўляецца менш важным ад розных казак, або ёсьць нягодным. Гэтак топчуцца правы, інстытуцыі і найбольш сьвятыя законы».

«...Мы ведаем, што шматлікія хрысьціяне ўсходняга абраду сёньня горка плачуць, калі на іх вачох забіваюць іхных біскупаў, або іх разганяюць, або не даюць ім змогі сказаць свабодна слова сваёй пастве і выконваць іхняе ўлады; калі шматлікія бачаць свае сьвятыні прызначанымі для іншага ўжытку, або пакінутымі ў апушчэньні; калі яны сьведамыя, што больш з гэтых сьвятыняў ня могуць лунаць да неба галасы малельнікаў гэтак цудоўна згарманізаваныя прыпісамі Літургіі, каб вымаліць у Бога патолі і нябесных ласкаў для паднясеньня думкі, для ўцехі сэрца і каб зарадзіць гэтак вялікаму злу».

Далей Сьвяцейшы Айцец заяўляе аб сумным факце, што шматлікія з вернікаў усходняга абраду знаходзяцца ў турмах і канцэнтрацыйных лягэрах, або нават калі і жывуць у сябе ўдома, дык ня могуць жыць так, як па праву ім належыцца: ня могуць прызнавацца да свае веры, а тымбольш ня могуць прапагаваць яе ў школе, ані нават у сваім сямейным кругу.

Гэты нялюдзкі прасьлед родзіць гэрояў.

Паіменна Энцыкліка ўспамінае аб прасьледаваньні каталікоў у Баўгарыі, дзе нядаўна быў засуджаны на сьмерць біск. Басілков з трымя сьвятарамі і сваімі супрацоўнікамі. Тое самае перш адбывалася ў Румыніі, на Украіне і сярод іншых славянскіх народаў, дзе Царква ўсходняга абраду перш памысна разьвівалася.

Пад канец Энцыклікі прыпамінаюцца словы Хрыста і Ягоных вучняў аб цярпеньні і прасьледаваньні. Сам Хрыстос гаварыў калісь: «Вучань ня вышэйшы за настаўніка і слуга ня вышэйшы за свайго гаспадара» (Мат. X, 24); «Калі Мяне прасьледавалі і вас будуць прасьледаваць» (Іван. XV, 20). Аднак Хрыстос зьвярнуў увагу ўсім сваім пасьлядоўнікам: «Любеце ворагаў вашых, рабеце дабро тым, хто ненавідзіць вас і малецеся за тых, што прасьледуюць і чэрняць вас» (Мат. V. 44). Хрыстос будучы на крыжы і церпячы страшэнныя мукі, маліў свайго Айца: «Ойча, адпусьці ім, бо ня ведаюць, што робяць» (Лук. XXIII 34).

Каб Бог скараціў цярпеньні вернікаў, адчыніў турмы, пакрышыў кайданы, — Папа зьвяртаецца з заклікам маліцца за пресьледаваных за веру

асабліва ў часе так званае актавы малітваў за еднасьць веры, каторая выпадае між 18 і 25 студзеня.

Прыгожая Энцykліка Сьвяцейшага Айца можа глыбока ўзварушыць кожнага, хто будзе чытаць яе бяз упярэджаньня.

У ёй не названа паіменна нашага шматпакутнага народу, але там, дзе зьвятаецца **да ўсіх прасьледаваных народаў,** бяз сумніву меў на ўвазе і нас беларусаў каталікоў абодвых абрадаў і нашых братоў праваслаўных, якія таксама шмат перацярпелі і церпяць ад бязбожнага камунізму за веру ў Бога і за вернасьць Хрыстовай Царкве.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Апостальскі візітатар для Беларусаў

Беларускія Каталіцкія сьвятары абодвых абрадаў на эміграцыі зьвярталіся да Сьвяцейшага Айца каназначыць Яго Эксц. Балеслава Слосканса Апостальскім Візітатарам для беларусаў каталікоў на эміграцыі. Сьвяцейшы Айцец выслухаў просьбу і назначыў Я. Э. Балеслава Слосканса Апостальскім Візітатарам для беларусаў каталікоў ува ўсёй Эўропе за выняткам Італіі.



Падаючы да агульнага ведама гэтую важную вестку, лічым сваім абавязкам прыпомніць некаторыя важнейшыя мамэнты з жыцьця Апостольск. Візітатара.

Я. Эксц. Балеслаў Слосканс радзіўся 31 жніўня 1893 г. у Стэрнянах Рэжыцкага пав. Сьвятарскае сьвячаньне атрымаў 21 студзеня 1917 г. у Петраградзе. Працаваў душпастырам у Петраградзе, Маскве і ў Віцебску ў парахвіі сьв. Барбары. Біскупскую хіратонію атрымаў 10 траўня 1926 г. як тытулярны біск. Цільлійскі, а 13 жніўня таго-ж году быў назначаны Ап. Адміністатарам Магілёўскім і Менскім, 16 верасьня 1927 г. бальшавікі яго арыштавалі і засудзілі на 3 гады ў канцэнтрацыйны лягэр на Салоўках. У 1930 г. І-ХІ ён вярнуўся ў Магілёў, адбыўшы кару на Салоўках, але праз тыдзень 8-ХІ яго зноў арыштоўваюць і высылаюць у Туруханскі край на паўночную Сібір. Адтуль 21-І-1933 г. ён быў выменены супраць сваё волі на савецкага камуніста з Латвіі. У 1944 г. нямецкае гэстапо вывозіць яго у Нямеччыну. У 1947 г. яго запрашаюць на пражыцьцё ў Бэльгію, дзе і знаходзіць гасьцінны прытулак. У тым-жа 1947 г. яго дэлегаваў Апостальскі Пасад візітаваць беларускія асяродкі ў Францыі, Бэльгіі і Нямеччыне. Варта дадаць, што Я. Э. Балеслаў паважна прычыніўся сваім заступніцтвам да арганізацыі беларускага цэнтру ў Лювэне. Сучасны адрас Апостальскага Візітатара такі: Son Excellence Msg. Boleslau Sloskans, Abbaye du Mont César, Louvain, Belgique.

У асобе нованазначанага Ап. Візітатара беларуская каталіцкая эміграцыя атрымала добрага пастыра і шчырага працаўніка на рэлігійнай ніве.

# Цярпеньне ў сьвятле навукі і прыкладу Хрыста

Багаслаўлёны плачучыя, бо яны будуць пацешаны. (Мат. V. 5).

Нічога на сьвеце ня прымушала і ня прымушае людзей так шмат думаць і шукаць памыснае разьвязкі, як цярпеньне. І гэта зусім апраўдана, бо яно ня вонках нас, а ў нас, спрычыняе нам боль, сэрца аплятае тугою, душу напаўняе сумам і ня рэдка адбірае шчасьце.

Аднак-жа ў цярпеньні павінна быць штосьці добрае і вялікае, калі яно ёсьць на сьвеце, калі яно неадступна суправаджае чалавека ад калыскі да магілы.

Былі розныя спробы разьвязаньня праблемы цярпеньня. Пагене яго не разумелі і таму праклінялі яго, але гэта ані не пазбаўляла цярпеньня, ані не памяншала болю. Некаторыя, як эпікурэйцы і гэдоністы, стараліся заглушыць цярпеньне ўжываньнем роскашаў, але такое лякарства замест зьменшыць цярпеньне — пабольшвала яго. Стоікі хацелі цнотай узьняцца па-над цярпеньне, але гэткае зьнячуленьне, у якім было шмат пыхі, не зра-

біла з цярпеньня прылады да асягненьня вышэйшае мэты. Індыйскі мудрэц Будда хацеў звольніцца ад цярпеньня праз поўную абыякавасьць да ўсяго і сьмерць. Усе гэтыя апініі не разьвязвалі праблемы цярпеньня і да часоў Хрыста на пытаньне: чаму я тут цярплю і нашто? людзі не знаходзілі здавальняючага адказу.

А ўсё-ж такі цярпеньне мае свой сэнс існаваньня. Нашая сьвятая вера паказвае нам сэнс і мэту цярпеньня. Яно прышло пасьля паршароднага граху чалавека, як ягоны неадступны спадарожнік. Яго прыслаў нам сам Бог як спосаб адрозьніваньня сапраўдных прыяцялёў ад фальшывых, як магчымасьць здабыцьця зноў ласкі, страчанае падчас упадку ў грэх і здабыцьця сабе большых духовых скарбаў.

а) Цярпеньне прышло па-першае на тое, каб нанава ўстанавіць маральны парадак, скрыўлены чалавекам праз грэх. Толькі праз цярпеньне чалавек можа аддаць доўг Божай справедлівасьці парушанай грахом. Сын Божы, хочучы пamірыць людзей з Богам, выбраў дарогу цярпеньня, а ўзяўшы на Сябе людзкія грахі, узяў таксама іхныя кансэквэнцыі: цярпеньне.

б) Цярпеньне ёсьць ня толькі карай за грахі, але так-жа бароніць чалавека перад грахом і дае магчымасьць заслугі. Душа ў цярпеньні зьвяртаецца да Бога, шукаючы ў Яго помачы. Добра зразумелае цярпеньне стаецца нашым разумным настаўнікам, які вызваляе і бароніць нас ад зла.

в) Толькі цярпеньне прышпільвае да грудзей сапраўдных гэрояў сярэбраныя і залатыя крыжы заслугі. Мерай заслугі заўсёды ёсьць цярпеньне. Помнікі стаўляюць тым, якія ўмелі цярпець за мільёны.

Ісус Хрыстос сваёю мукаю на Крыжы ня толькі выбаўляе людзей ад пекла, вызваляе ад грахоў, дае абаронныя сродкі перад грахамі, але і здабывае заслугі, якімі кожны можа ўзбагаціцца і асягнуць найвышэйшую ступень сьвятасьці. Крыж назаўсёды астаецца адзіным знакам заслугі і вялікім сымбалем нагароды.

Сьвятыя, разважаючы аб багацьці і вартасьці цярпеньня, гавораць, што Сын Божы зышоў з неба і ўчалавечыўся таму, што ня могучы цярпець на небе, мог цярпець на зямлі. Хрыстос дабравольна выбраў жыцьцёвую дарогу цярпеньня, якою йшоў ад Бэтлеему аж да Кальвары. Гэтай дарогай потым ішлі ўсе, што Яго любілі, і гэтай дарогай будуць заўсёды йсьці ўсе, што Яго будуць любіць.

У гэтым выяўляецца бязьмерная Божая мудрасьць, бо калі-б Хрыстос выбраў сабе раскошнае жыцьцё ў багацьці, славе, вялікасьці дык хто тады да Яго прыпадобніўся-б? Хто мог-бы йсьці Ягоным сьледам? Багацьце, слава, гонары адзьдзяляюць іхных носьбітаў ад іншых людзей, а цярпеньне касуе бар'еры між людзьмі, адчыняе дзьверы палацаў для бедных і патрабуючых. Праз цярпеньне ўсе мы маем доступ да Хрыста, а Ён да нас. Праз цярпеньне чалавек прыпадобніваецца Хрысту.

Дзіўная і вялікая Божая мудрасьць! Калі-б Хрыстос казаў прыпадобнівацца да Ягонае мудрасьці, магутнасьці і сьвятасьці дык хто-ж на гэта адважыўся-б?! Але калі кажа прыпадлбнівацца да Яго ў цярпеньні: «Хто хоча йсьці за Мною, хай адрачэцца ад самога сябе, возьме свой крыж ды йдзе за Мною» (Мат. XVI, 24) — дык што для нас ёсьць лягчэйшага!? І ў жыцьці Хрыста і ў нашым жыцьці толькі цярпеньня! Яно знайходзіць кожнага, нават тых, што ад яго ўцякаюць і гэтых можа найбольш.

Навука Хрыста ня толькі кажа нам прымаць цярпеньне, як Божую волю, і пераносіць яго ці як пакуту за грахі, ці як магчымасьць здабыцьця заслугі для сябе і для другіх; больш таго Хрыстова навука ідзе далей і кажа, што цярпеньне можна любіць, бо яно можа зьмяніць чалавека на лепшае і давесьці да найвышэйшае ступені дасканаласьці і сьвятасьці жыцьця.

Ісус у сваім цярпеньні ня бачыў пакуты за Сябе, бо быў нявінны, ані заслугі, бо быў найсьвяцейшы, аднак бачыў штосьці ў цярпеньні, што Яго вязала з ім у дзіўны спосаб. Адносіны Хрыста да цярпеньня супрацьлеглыя нашай натуры, якая ўнікае і жахаецца таго, што Хрыстос шукаў і з радасьцю ўспрыймаў. Беднасьць, пагарду, цярпеньне, паніжэньне і ўсякае прасьледаваньне сьвет ад сябе стараецца адкінуць якнайдалей, а Хрыстос ўсё гэта зьбірае і замяняе ў сваю непадзельную ўласнасьць.

Багаслаўлёныя ўбогія духам; багаслаўлёныя плачучыя; багаслаўлёныя, што церпяць прасьлед; багаслаўлёныя вы, калі будуць вас зьневажаць і прасьледаваць і гаварыць на вас усякае благоцьце дзеля Мяне (Мат. V, 3-11). Вось мова Ісуса, якое людзкое вуха дагэтуль ня чула і якое не адгадаў людзкі розум, ані прадчула сэрца.

З гэтых праменьняў багаславенства Божага Сэрца і са сьлёз цярпеньня людзкога сэрца сплятаецца каралеўская, ясная і простая дарога, якая вядзе да жыцьця вечнага; над галовамі цярпячых творыцца яснае сяева хвалы, што трывае вечна.

Дзеля гэтага, калі дабравольна цярпячых сьвет называе шалёнымі і дурнымі, а іхнюю сьмерць уважае за сорам і ганьбу, дык Хрыстос зьвяртаецца да іх з радасным клічам: «Цешцеся і весялецеся, бо вялікая нагарода вашая ў небе» (Мат. V, 12).

У цярпеньні чалавека падобна як у шкарлупіне пэрлаўкі, зранена пясчынкаю, утвараецца найдзіўнейшая каштоўная пэрла, утвораная са сьлёз людзкога сэрца і якая называецца: люблю. Сын Божы, зышоў з нябесных вышыняў у глыбі-

ню людзкога цярпеньня, каб праз боль Свайго Сэрца ўсё жыцьцё замяніць на такую пэрлу.

Гледзячы на Ісуса Хрыста, уміраючага за нас на крыжы, зразумеем, што Ён нас бесканечна любіць, бо для нас цярпіць; што ня толькі дае нам усё неабходнае для нашага збаўленьня, але дае нам Сямога Сябе, Сваё Сэрца. Вось адна з тайніцаў цярпеньня, вось яе адно вялікае слова: люблю.

У цярпеньні даконваецца духова-містычная лучнасьць нашых душаў з Ісусам Хрыстом. Прыпомнім сабе, што мы зьяўляемся членамі містычнага цела Хрыста, якога Ён ёсьць галавою. Ягоная кроў ажыўляе нас праз сьв. Тайны, асабліва ў сьвятым Прычасьці. Ведама, што Хрыстос сваею мукай заплаціў Айцу за ўсе нашыя грахі, але самое Яго мукі не хапае каб быць збаўленым. Мы павінны ўдзельнічаць ў ёй, замяніць яе на нашую ўласнасьць, з ёю супрацоўнічаць. Мы праз цярпеньне з Ісусам дапаўняем тое, чаго нестае для нас у муцы Хрыста, як гаворыць ап. Павал (Калас. I. 24). На дарозе цярпеньня наша душа спатыкаецца з Ісусам, бо Ён ідзе па гэтай дарозе.

Ёсьць тры крыніцы цярпеньня: Першая крыніца — Бог. Ён пасылае цярпеньне людзям, для асягненьня вялікіх мэтаў. Такое цярпеньне рэдкае, але калі прыходзіць, дык прыносіць з сабою патрэбную для перанясеньня цярпеньня ласку, бо што ад Бога йдзе, да Бога і вяртаецца. Гэтага цярпеньня ня трэба баяцца.

Другая крыніца — нашыя грахі і недасканаласьці. Праз першы грэх цярпеньне ўвайшло на сьвет і цяпер кожны новы грэх, адчыняе яму шырока дзьверы нанова. Прыгледзеўшыся ўважна нашаму жыцьцю, пабачым, што прычынаю большае часткі нашага цярпеньня ёсьць неразважныя, а перадусім грэшныя праступкі. Гэткае цярпеньне непажаданае, як і сам грэх. Ад гэткага няшчасьця трэба ўцякаць. Чым далей будзем ад яго, жыцьцё будзе азначацца большым спакоем, тым спакоем, які дае чыстае сумленьне. Гэта прыносіць радасьць, шчасьце і справядлівае перакананьне, што мы з помаччу Божае ласкі нашага жыцьця не змарнавалі. Калі пасьля граху прыходзіць цярпеньне, трэба яго прыняць, як пасланае з Божае волі і адпакутаваць за грахі — гэткае цярпеньне і пакута ёсьць заслугоўваючым актам. Сьв. Аўгустын у зьвязку з гэтым кажа: «Бог ніколі не дапусьціў-бы граху, каб ня мог з гэтага зла зрабіць большага дабра».

Трэцяя крыніца — грахі іншых адносна нас, іхныя слабасьці і недасканаласьці, а так-жа нашыя адносна іншых. Чалавек ёсьць грамадзкаю істотаю і таму незахаваньне маральнага права праз аднаго, стаецца крыніцаю цярпеньня для другіх. Страшэнна шырокая і глыбокая гэта крыніца сёньня. Як захавацца адносна гэтага цярпеньня? Кожны чалавек паасобку і ўсё грамадзтва павінна ўсімі сіламі старацца, каб унемагчыміць злачынствы, нягоднасьць, несправядлівасьць і крыўды, або прынамсі іх як найбольш абмежаваць. Гэтага хоча Бог.

Агулнае цярпеньне паменшыцца на толькі, паколькі кожны сам сябе папravіць і апануе свае нахілы да злога ды будзе старацца жыць паводля правіла: каб мне было добра жыць з іншымі, з іншым добра са мною.

Цярпеньне ў дачасным жыцьці будзе заўсёды і нам трэба яго выкарыстаць. Найлепшы прыклад адносна гэтага дае нам Хрыстос сваім жыцьцём. Усе Ягоныя цярпеньні выплывалі з людзкое злобы, з крывадушных намераў фарызэяў, са зьменлівых настрояў масаў народу, нават з паводзін апосталаў, якія яшчэ ня былі вырабленымі і апанаванымі.

Юда выдае Хрыста на сьмерць, Пятро выракаецца аж тры разы. У часе мукі ўсе Яго пакідаюць. А Ісус усе гэтыя цярпеньні бярэ як Божую волю, якая павінна споўніцца, таму не супраціўляецца цярпеньням, не адкідае іх, больш таго, бароніць іх: калі Пятро, пачуўшы ад Хрыста, што Яму трэба йсьці на муку, пачаў адмаўляць ад гэтага, дык Хрыстос абураны адказаў Пятру востра: «Адыйдзі ад Мяне шатан! Ты для Мяне спакуса, бо ня думаеш аб тым, што Божае, але што чалавечае» (Мат. XVI, 23). Хрыстос цярпеньне называе чарай, якую Яму падае нябесны Айцец, а ў крытычнай хвіліне кажа: «Ойча, калі Твая воля, пранясі чару гэтую міма Мяне, але не Мая воля, але Твая няхай станецца» (Лук. XXII, 42).

У жыцьці хрысьціяніна ніводная сьлязіна, ніякі боль, ніякі сум, ніякая прыкрасьць духовая, ці фізычная ня згіне марна, калі толькі гэтыя цярпеньні прымецца, як волю Божую, калі ў цярплівасьці і ціхасьці духа чалавек скажа: Божа, будзь воля Твая!

Ісус Хрыстос, падобна як раніцаю йшоў да апосталаў, якія выбіваліся з сілаў у чаўне на ўзбураным моры, так ідзе да нас у цярпеньнях, смутку, прасьледаваньнях. Цяжка нам, няраз страшна і безнадзейна, але як толькі, навучаныя верай, у пакоры, схілім галаву перад нябесным Айцом і скажам: станься воля Твая, Божа! Тады хоць вока ня высахне, хоць сэрца не перастане сумаваць, але душа супакоіцца і зразумее тайну, што рука, якая датыкае нас, гэта заўсёды рука любячага Айца.

Ня мінула цярпеньне і Божае Маці. Якое вялікае мусіла быць Яе цярпеньне, калі трымала ў сваіх абыймах зьнятае з крыжа мёртвае цела дарагога адзінага Сына! У гэтай хвіліне яна сталася каралевай мучанікаў. Тады яна яшчэ раз паўтарыла ў сваім сэрцы с т а н ь с я, гэтае вялікае слова жыцьця: будзь воля Твая!

Крыж у Божых плянах меў быць знакам хвалы, чэсьці і шчасьця чалавека. Пасьля ўпадку чалавека ўсе насьледкі граху скупіліся ў крыжы. У жыдоў крыж быў праклёнам, у паган сьмерць на

крыжы была найбольшай ганьбай. Крыж, абмыты Крывёю Збавіцеля, стаецца знакам заслугі і чэсьці. Цяпер ён знайходзіцца на каронах каралёў, на грудзях гэрояў. Крыж стаецца зарукай перамогі. Дзе крыж, там супакой, шчасьце, лад, парадак, жыцьцё; дзе ўцякаюць ад крыжа, дзе нішчаць яго, там цемра, дзікасьць, барбарства, бязлад, страшэнная сьмерць духа і цела.

Толькі крыж сёньня можа ўратаваць людзкі род ад загубы, толькі ён можа ўліць у неспакойныя і зьдзічэлыя людзкія сэрцы супакой, толькі ён прынясе новае жыцьцё.

Направіць усё ў Хрысьце, значыць навучыць людзей цярпець і даць ім моц цярпеньня. Хто сьведама і дабравольна ўспрыймае цярпеньне, той умее панаваць над сабою, той умее змагацца з перашкодамі, мае заруку быць пераможцам у жыцьцёвых цяжкасьцях, а хто выцягае рукі па роскашы, той стаецца іхным нявольнікам.

Дык прасем сьвятое цярплівасьці, ласкі згаджацца заўсёды з Божаю воляй, ведаючы, што за чорнымі хмарамі цярпеньня, няўдачаў заўсёды сьвеціць сонца Божых абяцаньняў і Божага багаславенства.

**Янка Садоўскі.**

# Царкоўная еднасьць

У часе ад 18 да 25 студзеня ўвесь хрысьціянскі сьвет абходзіць актаву малітваў за аб'еднаньне Цэркваў. Ня так даўно, бо ў 1908 г. першы раз арганізаваў гэткую актаву а. Ваттсон, а сёньня на ўсім сьвеце і ўва ўсіх мовах каталікі, праваслаўныя і пратэстанты моляцца ў часе гэтае актавы да Усявышняга, каб настала аб'еднаньне ўсіх вернікаў у адной Хрыстовай Царкве.

Акрамя актавы малітваў за аб'еднаньне ад некаторага часу пратэстанты і часткава праваслаўныя склікаюць розныя экумэнічныя кангрэсы, канфэрэнцыі і зьезды, твораць арганізацыі, у якіх прадстаўнікі розных веравызнаньняў стараюцца знайсьці супольныя пункты паразуменьня ня так багаслоўскім, як хутчэй мэханічна-рэдуктыўным спосабам. У гэтых экумэнічных канфэрэнцыях Каталіцкая Царква і сама ня ўдзельнічае і сваім вернікам забараняе браць афіцыяльны ўдзел. Гэткае становішча Каталіцкае Царквы некаторым ворагам каталіцызму служыць прэтэкстам, каб абвінаваціць каталікоў у браку добрае волі. У сапраўднасьці Кталіцкая Царква заўсёды жадала і жадае аб'еднаньня ўсіх хрысьціян і жадае яго больш шчыра, чым якія іншыя Цэрквы ці сэкты. Нэгатыўнае становішча Каталіцкае Царквы да экумэнічнага руху вынікае не з нястачы добрае волі, але таму, што Яна разумее аб'еднаньне хрысьціянства інакш, чым гэта разумеюць іншыя хрысьціянскія Цэрквы і сэкты.

Каталіцкі пагляд на справу аб'еднаньня Цэркваў быў выясьнены 25 гадоў таму назад папаю Піям XI у ягонай энцыкліцы «Mortalium Animos», выданай 6 студзеня 1928 г.

Насамперш Энцыкліка сьцьвярджае факт, што апошнім часам было зроблена шмат натугаў з боку некаталікоў з мэтаю аб'еднаньня ўсіх хрысьціян. Выхадным пунктам усіх гэтых пачынаньняў было цьверджаньне, што паколькі на сьвеце няма амаль людзей пазбаўленых рэлігійнага пачуцьця, дык ня цяжка будзе знайсьці некаторыя пункты веры супольныя для ўсіх рэлігіяў і прыймальныя для ўсіх людзей і вось гэтыя пункты нібы павінны легчы ў аснову духовага аб'еднаньня ўсіх людзей. Такія пагляды — кажа далей Энцыкліка — ня могуць спаткацца з сымпатыяй з боку каталікоў, бо яны стаяць на фальшывым заложаньні, што «ўсе рэлігіі ёсьць больш менш добрымі і годнымі пахвалы, бо ўсе яны пад рознымі формамі даюць выражэньне ўроджанаму пачуцьцю, якое вядзе нас да Бога і да падпарадкаваньня Ягонаму закону». Тыя, што так думаюць, ня толькі памыляюцца, але фальшуюць самое паняцьце рэлігіі і крочаць проста па шляху да натуралізму і атэізму.

Далей Энцыкліка выясьняе праўдзівае паняцьце рэлігіі і Царквы. Бог стварыў чалавека, каб той Яго пазнаваў і Яму служыў, дзеля гэтага мае поўнае права, як Валадар і Стварыцель сусьвету дамагацца ад чалавека поўнага падпарадкаваньня. Бог даў усім людзям натуральнае права, упісаўшы яго глыбока ў сэрцы кожнага. Але акрамя натуральнага права Бог даў людзям яшчэ пазытыўнае права, аб'яўленае. Нашым абавязкам ёсьць верыць у аб'яўленыя Богам праўды і выконваць аб'яўленыя Ім правы. Каб аблягчыць людзям выкананьне гэтых абавязкаў Адзінародны Божы Сын Ісус Хрыстос залажыў сваю Царкву. Пасьля гэтага ніхто з тых, што называюць сябе хрысьціянамі, не адкідае факту, што Хрыстос залажыў толькі адну Царкву. Аднак існуюць розныя пагляды на характар гэтае Царквы. Так напрыклад некаторыя думаюць, што Хрыстова Царква гэта нічога іншага, як свабодная фэдэрацыя ўсіх хрысьціянскіх груповак і сэктаў, якія не абавязкава павінны нават згаджанца ўва ўсіх праўдах веры, а толькі ў «прынцыповых». У сапраўднасьці-ж Хрыстова Царква ёсьць ідэальным бачымым грамадзтвам, зьедналым у вызнаваньні тое самае веры і ў падпарадкаваньні аднаму найвышэйшаму аўтарытэту. Духоўныя ўлады Царквы — ерархія — зьяўляюцца простымі наступнікамі апосталаў на чале з намесьнікам ап. Пятра. Гэтыя духоўныя ўлады маюць за заданьне захаваць у беззаганнай чысьціні ўвесь дэпазыт аб'яўленае праўды і навучаць гэтай праўдзе вернікаў, на што Царква атры-

мала аўтарытэт самога Хрыста, Які паслаў сваіх вучняў, каб яны навучылі ўсе народы. Гэтая Царква ёсьць адна: яна заложана самым Хрыстом і будзе існаваць аж да сканчэньня сьвету, бо такая ёсьць воля Хрыста.

Пасьля гэтага ясна, чаму Каталіцкая Царква ня ўдзельнічае ў экумэнічных імпрэзах, ладжаных з ініцыятывы пратэстантаў. Каталікі бачаць толькі адно аб'ёднаньне: поўнае прыняцьце ўсіх аб'яўленых праўдаў, як іх падае да вераваньня Каталіцкая Царква і падпарадкаваньне Апостальскаму Пасаду. Тут ня можа быць мовы аб нейкіх кампрамісах, або аб выбіраньні толькі нейкіх «прынцыповых праўдаў веры», бо аб'яўленыя праўды ўсе аднолькава прынцыповыя, бо аднолькава Божыя і ніхто ня можа сябе назваць сябрам Каталіцкае Царквы, хто ня верыць хоць у адзін з аб'яўленых догматаў.

Таму Энцыкліка зьвятаецца з гарачым заклікам да ўсіх, што некалі адпалі ад Каталіцкае Царквы, каб яны зноў вярнуліся. «Хай-жа яны — гаворыцца ў Энцыкліцы — вернуцца да іхняга Айца, які забыўшыся на прошлыя, зробленыя імі Апостальскаму Пасаду крыўды, прыме іх зноў з вялікай любоўю...» Аднак яны не павінны спадзявацца, што Царква «будзе талераваць іхныя памылкі, але (яны павінны) прыняць поўнасьцю Яе навуку і кіраўніцтва».

Энцыкліка канчаецца заклікам да ўсіх каталікоў і некаталікоў, каб маліліся ў намераньні, каб гэтая сапраўдная царкоўная еднасьць наступіла ў найбліжэйшым часе.

Такі ў кароткіх словах зьмест гэнае важнае Энцыклікі вялікага папы, які асабіста шмат зрабіў дзеля пашырэньня царкоўнае еднасьці.

Ягоныя словы цяпер таксама актуальныя, як яны былі актуальнымі 25 гадоў таму назад. У іхным дусе і адбываюцца штогод актавы малітваў за царкоўную еднасьць у сьвеце.

**А. Надсон.**

# Голас праваслаўных ерархаў

Румынскі праваслаўны быўшы Чэрнавіцкі мітрапаліт Вісарыён Пую пісаў з Парыжа 1-га лістапада 1951 г. у лісьце да Маскоўскага Патрыярха Аляксея:

«Рух у абароне міру, запачаткаваны і падсычваны з палітычных, а не рэлігійных меркаваньняў, душою якога ёсьць варожасьць да іншых рэлігіяў і асабліва да каталіцтва, зьяўляецца такою наіўнасьцю, ад якое Маскоўскі Патрыярх павінен-бы адмовіцца, бо гэтая акцыя ня мае ніякае канечнае для яе маральнае павагі. Рэлігійныя прасьледаваньні і варажнеча з нячуваным шаленствам, якую мы бачым у дачыненьні да сястрыннае нам Рымскае Царквы, адымаюць права ў палітычных кіраўнікоў і ў Маскоўскага Патрыярха гаварыць аб тым, быццам яны жадаюць міру...»

«Трэба налягаць на тое, каб кончыліся палітычныя і рэлігійныя прасьледаваньні так унутры, як і навонках савецкіх тэрыторыяў. Першым вынікам хрысьціянства ёсьць мір з сястрыннай Царквою Рыму, якая на працягу многіх стагодзьдзяў з нязвычайнаю энэргіяй і больш чым якая іншая група імкнулася да зьдзейсьненьня міру і грамадзкае згоды ўва ўсім сьвеце».

«Увесь сьвет назірае з жуткасьцю і спачуваньнем цярпеньні, якія бяз дай прычыны і не справакаваны нічым спрычыняе маскоўскі рэжым усім інстытуцыям Рымскае Царквы ў розных краінах і падзіўляе разыгнацыю, з якою яна ўсё гэта пераносіць; не з контратакай прэсы, але з малітваю, перакананая ў тым, што так як прамінулі прасьледаваньні Наполеона і Гітлера, прамінуць і гэтыя балючыя ўдары, бо хрысьціянская Царква ёсьць вечная».

«Я ёсьць і астаюся ў лоне мае Праваслаўнае Царквы, але публічна заяўляю з моцай, што Рымская Царква дзеля свае вышэйшае арганізацыі, дзеля сваіх шматлікіх культурных і дабрадзейных інстытуцыяў і дзеля сваіх місіянэрскіх натугаў ува ўсім сьвеце, ёсьць годная падзіву і заслугоўвае на ўспамогу, а не на прасьледаваньне. Мэтаю ўсіх хрысьціянскіх Цэркваў павінна было-б стацца жаданьне Госпада нашага Ісуса Хрыста: «Каб усе былі адно». (Паводля «Unitas» IV-VI, 1952).

Іншы праваслаўны ерарх агульна ведамы ува ўсім праваслаўным сьвеце галава грэцкае Праваслаўнае Царквы Афінскі Архіяпіскап Спірыдон, духовы правадыр 7 з палавінаю мільёнаў праваслаўных грэкаў у інтэрвію выключна для прэсавае агенцыі «Асошэйтэд-Прэс» заявіў, што прасьледаваньне каталікоў камуністамі зьяўляецца адначасна агрэсіяй супраць усяго хрысьціянства.

«Ёсьць чэсьцю для каталікоў — казаў архіяпіскап Спірыдон — тая сьмеласьць, якую яны праявілі ў абліччу прасьледаваньня ў камуністычных краінах. Гэта так-жа вялікая адвага, што яны і далей астаюцца ахвярамі камуністычнях атакаў. Небясьпека камунізму ёсьць супольнаю для ўсіх рэлігіяў. Хаця каталікі і праваслаўныя грэкі даволі часта мелі «разыходжаньні», аднак у змаганьні з камуністычным прасьледаваньнем наша барацьба ёсьць суполнаю». У часе апошняе хатняе вайны з камуністамі ў Грэцыі паводля сьведчаньня ўладыкі Спірыдона згінула 225 сьвятароў, зьнішчана каля 2 тыс. цэркваў. («L'Osservatore Romano» 22. I. 1953).

**А. Дзедзінка.**

# Сумленьне

У штодзенных гутарках, у сяброўскіх адносінах і ў прамадзкіх справах вельмі часта людзі паклікаюцца на сумленьне. Хочучы даведацца аб іншых, у першую чаргу пытаюцца, ці ён сумленны ці не. У дакорах адносна людзей з дрэннымі паводзінамі нярваз можна пачуць горкую заўвагу, што той, ці іншы «ня мае сумленьня» — гэтым выказваецца найгоршае асуджэньне. Калі для чалавека сумленьне мае такое вялікае значэньне, дык варта аб ім даведацца крыху больш і дакладней: што яно такое гэтае сумленьне?

У азначэньні слова «сумленьне» вучоныя маюць некаторыя разьбежнасьці, бо гэтае слова, падобна як шмат якія іншыя мае некалькі значэньняў. З гледзішчі лёгікі сумленьне ёсьць здольнасьцю чалавека разрозьніваць дабро ад зла. З маральнага гледзішча — сумленьне ёсьць уласьцівасьцю людзкога розуму судзіць адвольна і беспасрэдна аб маральнай вартасьці ўчененых актаў. Але сумленьне ня толькі судзіць і ацэньвае зробленыя ўчынкі, яно яшчэ перад там чым нешта зроблена выдае практычны суд, ці намераны акт згодны з маральным правам, ці не; ці яго можна рабіць, ці трэба паўстрымацца. Агульна і коратка кажучы сумленьне можна было-б назваць уласьцівасьцю людзкое душы адчуваць маральную вартасьць намераў і ўчынкаў.

Вобразна часта гаворыцца аб голасе сумленьня, які або пахваляе, бо ганіць, або выклікае радасьць і задаваленьне пасьля добрых учынкаў, або страшэнна мучыць пасьля дрэннага.

Спаміж усіх жывых істотаў на зямлі толькі чалавек мае сумленьне, бо толькі ён мае духовую душу. Толькі чалавеку Бог даў разумную і несьмяротную душу, абдараваную вольнаю воляю і прызначаную да асягненьня вечнага жыцьця ў небе. І вось каб вольная воля мела магчымасьць добра кіраваць паводзінамі чалавека, Бог даў чалавеку непамыльнага дарадніка — сумленьне. Было шмат багасловаў і сьвецкіх вучоных, якія проста азначалі сумленьне, як голас Бога ў дышу чалавека. Ды ці толькі багасловы і вучоныя! Гэткай ёсьць найбольш распаўсюджаная думка ў народных масах. Амэрыканскі місіянар а. Тамаш Дюпэрон апавядае такое здарэньне са сваае дзейнасьці. Аднойчы ў ваколіцы Канзас, дзе жывуць яшчэ індзейцы «Кікапу» з групы Альгонкін, сустрэў яго правадыр аднае групы і ўбачыўшы ў руках місіянара брэвіяр, казаў: «Чорны сурдут (так індзейцы называюць каталіцкіх сьвятароў, — ці-ж ня праўда, што гэтая кніжка, якую ты чытаеш, ёсьць Сьвятое Пісаньне?» На пытакуючы адказ місіянара індзеец казаў далей: «Мы ня ўмеем чытаць, але мы маем так-жа Сьвятое Пісаньне! Вось дзе яно! — казаў, паказваючы на сваю грудзіну — І гэтае «Сьвятое Пісаньне» кажа нам, што Вялікі Дух заўсёды глядзіць на нас. Гэтая сьвятая кніга забараняе нам красьці каня, карову, агулам усё тое, што належыць іншым людзям. Гэтая сьвятая кніга забараняе мне пажадаць жонку майго бліжняга; яна забавязвае мяне дбаць аб маім бацьку і матцы ў іх старасьці і падзяліць з імі нават апошні кусок хлеба. Бачыш, чорны сурдут, усё гэта кажа мне сьвятая кніга ў маім сэрцы».

Цяжка больш проста, ясна і вобразна апісаць сумленьне, як гэта зрабіў той някграматны індзеец,, ды няма патрэбы даўжэй затрымоўвацца над азначэньнем сумленьня ,але варта зьвярнуць увагу на што іншае. Калі ўва ўсіх людзей ёсьць сумленьне, дык як паясьніць той факт, што ня усе аднолькава слухаюцца сумленьня, а нават ведамы выпадкі, калі людзі быццам зусім перастаюць адчуваць яго голас?

У дзейнасьці чалавека сумленьне мае не вырашаючы, а толькі дарадчы голас. Уласьцівую пастанову нешта зрабіць, або паўстрымацца ад дзейнасьці выдае вольная воля чалавека. У выніку гэтага здараюцца выпадкі, калі воля ня годзіцца з сумленьнем і нават з розумам, тады і зьяўляюцца ўчынкі, якія ня годзяцца з голасам сумленьня, а нават яму супярэчаць. Так вольную волю, як і сумленьне чалавек атрымоўвае разам з душою — кажацца, што яны ўроджаныя, але дзеля таго, каб яны занялі належнае мейсца ў жыцьці чалавека, мусяць разывівацца і дасьпяваць. Калі-ж узгадаваньне чалавека будзе такое, што замест разьвіваць сумленьне, будзе прыглушаць ягоны голас, дык ня дзіва, што з часам голас сумленьня можа аслабнуць, але поўнасьцю заглушыць гэты магутны нябесны голас ніколі нікому не ўдалося. Гісторыя ведае нязьлічаныя выпадкі, калі скрытыя забойцы дзесяткі гадоў пасьля сваіх правінаў самі зьяўляліся да судзьдзяў, каб адпакутаваць за свае злочны.

Вельмі характэрна, што людзі, якія страцілі ўсякую веру, ці тыя, што ие ніколі ня мелі і для якіх рэлігійныя маральныя вымаганьні практычна ня існуюць, ня могуць у сабе заглушыць голасу сумленьня. Сучасныя бязбожныя дзяржаўныя сыстэмы даюць шмат прыкладаў на гэта. толькі нажаль мала з іх даходзіць да агульнага ведама. Для прыкладу вось пару здарэньняў, якія былі трапілі на старонкі прэсы. Чэкіст, які 4-VI-1918 г. застрэліў пермскага архіяп. Андроніка, ня мог сабе нідзе знайсьці мейсца і едучы на Усходня —Кітайскай чыгунцы, трапіў пад цягнік. Яму адрэзала абедзьве ногі. Лежучы ў харбінскай больніцы, ён да самае сьмерці крычаў: «Ратуйце мяне, ра-

туйце: вось Андронік ідзе, Андронік ідзе-» Іншы чэкіст тав. Жуков, які 30-III-1923 г. растрэліў магілёўскага пралата Канст. Буткевіча і агулам за свой век меў на сумленьні жыцьцё больш 2000 людзей, адчуваў такі дакор сумленьня, што кончыў жыцьцё самагубствам. Падобных прыкладаў ёсьць тысячы.

Асабліва моцна адзываецца сумленьне перад сьмерцю, тым з большым дакорам яно асуджае тады ўсе зробленыя калісь злочыны, чым менш астаецца жыцьця і дзеля гэтага сьмерць людзей з нячыстым сумленьнем бывае нязвычайна жахлівай. Тады толькі адзіная шчырая споведзь спалучаная з сапраўдным каеньнем дае чалавеку супакой.

Шчасьлівы той чалавек, хто праз усё жыцьцё захавае чыстае сумленьне, так каб кожнае хвіліны бяз страху мог стаць перад абліччам Найвышэйшага Судзьдзі, дзеля гэтага сьв. Бэрнард даваў такую раду: «Працуй так, як-бы дзела тваіх рук мела існаваць вечна, але жыві так, як-бы меў памерці заўтра». А гэта магчыма тады, калі чалавек навучыцца быць валадаром свае волі і слугою свайго сумленьня, бо ад Бога яно паходзіць і да Бога нас вядзе.

**а. Л. Гарошка.**

# Кардынал А. Стэпінач змагар за найвышэйшыя ідэалы

Хаця імя харвацкага дастойніка Яго Эмінэнцыі Кардынала Стэпінача ведама сёньня ўсяму вольнаму сьвету, не ад рэчы будзе ў часе ягонага вывышэньня перагледзець ягоны жыцьцёвы шлях, бо гэты шлях вельмі характэрны для сучаснага каталіцкага ерарха з краіны апанаванай камунізмам. Ён прайшоў цьвёрдую жыцьцёвую школу ў барацьбе за найвышэйшыя ідэалы: за Бога і за бацькаўшчыну.

Алёізы Стэпінач радзіўся 8 траўня 1898 г. ў вёсцы Красічы ў Харвацыі ў сям'і сялян, каторыя апрача Алёіза мелі яшчэ адзінаццаць дзяцей. Так ягоныя бацькі, як і дзядзька былі людзьмі вельмі пабожнымі. Асабліва маці азначалася глыбокім хрысьціянскім жыцьцём.

Як толькі Алёізы дарос да школьнага веку, пайшоў у народную школу ў роднай вёсцы, а пасьля яе кончыў гімназію ў Загрэбе. Прайшоўшы шчасьліва матуральны экзамін, ён быў пакліканы ў войска і хутна авансаваў на афіцэра. У 1917 г. быў ранены ад разрыву міны і амаль у цудоўны спосаб астаўся пры жыцьці. Потым трапляе ў палон і быў перавезены ў Італію, адкуль дабравольна далучаецца да аліянтаў і едзе на фронт пры Салёніках.

Пасьля заканчэньня вайны вярнуўся на бацькаўшчыну і праз год запісваецца на агранамічны факультэт у Загрэбе, хутка аднак перарывае студыі, вяртаецца ў бацькаўскую хату ў Красічы і там чатыры гады працуе як звычайны селянін.

У 1924 г. адчувае сьвятарскае пакліканьне і выязджае ў Рым, там на Грэгарыянскім унівэрсытэце студыюе філязофію і тэалёгію, здабываючы навуковыя ступені доктара філязофіі і тэалёгіі.

У 1930 г. атрымоўвае сьвятарскія сьвячаньні і адпраўляе сваю першую сьв. Службу Божую ў слаўнай базыліцы на Эсквіліне, ведамай пад назовам Маці Божай Большай. Варта ўспомніць, што ў гэтай самай сьвятыні калісьці адпраўлялі сьв. Літургію ў бізантыйска-славянскім абрадзе сьвятыя апосталы славян браты Кірыла і Мяфод.

Год пасьля атрыманьня сьвятарства айцец Стэпінач вяртаецца ў Харвацыю, каб заняць адказнае становішча ў канцылярыі Загрэбскага архібіскупа, пры гэтым ён часта адведвае прыгарадзкую бядоту, дапамагае ім парадамі ўва ўсіх жыцьцёвых цяжкасьцях.

У 1934 г. папа Пій XI назначае а. др. Стэпінача архібіскупам коад'ютарам тагачаснага Загрэбскага Архібіскупа А. Баўэра.

За свой пастырскі кліч архібіскуп Стэпінач прымае словы псальму: «На Цябе, Госпадзе, надзеюся-» Як архібіскуп-коад'ютар ён мае шмат працы, але яе хутка прыбывае значна больш, калі ў 1937 г. пасьля сьмерці Я. Э. Баўэра стаеецца Загрэбскім Архібіскупам. Цяпер ён, не ашчаджаючы самога сябе, аддае ўсе сілы на зарганізаваньне каталіцкае акцыі, Карытасу, заснаваньне новых парахвіяў, арганізацыю эўхарыстычных кангрэсаў, школаў і каталіцкае прэсы. Ён быццам прадчуваў надыходзячую небясьпеку і рабіў усё неабходнае, каб падрыхтаваць да яе і сьвятароў і вернікаў. Ён перасьцерагаў народ перад пагрозаю камунізму і націзму.

Загрэбская епархія налічвае каля 2 мільёны вернікаў. Гэта адна з большых каталіцкіх епархіяў у сьвеце. Сваю адказнасьць за толькі душ архібіскуп Стэпінач разумеў вельмі добра.

Калі выбухла другая сусьветная вайна, Загрэбскі Архібіскуп знайшоўся у вельмі цяжкіх абставінах. Як харвацкі патрыёт ён жадаў усяга найлепшага для свае бацькаўшчыны. Ён добра ведаў усю крыўду і несправядлівасьць, якую выцярпеў яго народ ад «старэйшага брата» — сэрбаў. Таму створаная з дапамогаю Нямеччыны Харвацыя з Павэлічам на чале — хоць і была творам фашыстоўска-націстоўскім пры тагачаснай кан'юнктуры была яму бліжэйшай чымся Харвацыя пад поўным панаваньнем сэрбаў. Аднак хрысьціянскае сумленьне не пазваляла ў той час кідаць каменьнем у сэрбаў і калі тагачасныя харвацкія кіраўнікі пачалі акцыю насільнага наварочваньня

сэрбаў з праваслаўя на каталіцызм, дык архібіскуп Стэпінач пратэстуе супраць гэткага гвалту над сумленьнем.

У часе вайны бяда заглядала амаль у кожную хату і Загрэбскі Архібіскуп стараецца злагодзіць цярпеньне ўсім аднолькава.

Калі немцы ў імя сваіх тэорыяў зьдзекаваліся так у сябе ў Нямеччыне, як і ў акупаваных краінах над каталікамі, архібіскуп Стэпінач ня мог маўчаць і хоць у Харватыі ўлада была ў руках пронямецкае усташы, дык ён не баяўся прылюдна выказваць свой пагляд, хоць добра ведаў у якое небясьпечнае палажэньне ставіць самога сябе. У адным прыватным лісьце Я. Э. Стэпінач пісаў: «Ніхто ня можа сказаць, што Загрэбскі Архібіскуп маўчаў, ці занядбаў заявіць публічна аб тым, што думае Царква. Што сёньня значыць сказаць штоколечы адкрыта кожны сьведамы сучаснага палажэньня добра ведае, што гэта раўназначна гульні са сваею галавою».

Вернасьць сваім прынцыпам, непахісная адвага Я. Э. Стэпінача заясьнелі яшчэ паўнейшым бляскам у часе цітаўшчыны. Камуністы закідвалі яму ўсячыну; і супрацоўніцтва з фашызмам і з нацызмам і зраду дзяржавы і пад. З годнасьцю, не заікаючыся якраз тым, што яго бясправна судзілі, гаварыў ён праўду ў вочы. Турма, маральныя зьдзекі і напады не зламалі яго. Да апошняе хвіліны, хаця зьняволены, адарваны ад сваіх вернікаў пастыр не адступаў ні на ёту ад занятай ім пазіцыі ў дачыненьні да бязбожнага камунізму ці ён ёсьць ленінскі, сталінскі ці цітаўскі.

Калі папа Пій XII на сакрэтным кансістары абвесьціў лісту новых кардыналаў, былі з Ім разам усе тыя, што мелі хутка атрымаць пурпуру. Ня было толькі двох славянскіх дастойнікаў: Я. Эм. Вышынскага і Я. Эм. Стэпінача. Тады Папа між іншым сказаў: «Калі Мы з вялікай радасьцю бачым Вас тут сабраных, дарагія браты, дык Мы ня можам ня ўспомніць з вялікім сумам Загрэбскага Архібіскупа, каторы дзеля тых умоваў, у якіх знаходзіцца сёньня, ня змог свабодна прыбыць у гэты горад (Рым) з тым, каб мог зноў вярнуцца. Хаця ён і адсутны, Мы яго абыймаем з бацькаўскай любоўю і горача жадаем заявіць усім, што калі Мы пастанавілі апрануць яго ў маестат рымскае пурпуры, дык ня мелі на думцы нічога іншага, як даць яму справядлівую нагароду за ягоныя вялікія заслугі, а так-жа даць сьвядоцтва ўсёй ягонай нацыі аб нашай да яе добразычлівасці. Пры гэтай нагодзе Мы асабліва хвалім і жадаем падтрымаць на духу нашых дарагіх сыноў і дачок за іх моц і адвагу, з якою ў гэтак цяжкія часы вызнаюць сваю каталіцкую веру».

Кардынальская пурпура — гэта сымбаль гарачай любові Бога, Яго Царквы, гэта так-жа сымбаль гатоўнасьці праліцьця крыві за веру. Каму-ж як ня архібіскупу Стэпіначу гэрою-вязьню за Хрыста яна можа лепш адпавядаць!

**а. Ч. Сіповіч.**

# Дзяржаўныя дзеячы і рэлігія

Яшчэ на пачатку нашага стагодзьдзя найбольш модным клічам адносна рэлігіі было цьверджаньне, што рэлігія ёсьць прыватнаю справаю чалавека. Гэтым хацелі сказаць, што ў дзяржаўным жыцьці няма мейсца для рэлігіі. Але сумнае дасьведчаньне змусіла шматлікіх людзей асноўна пераглянуць адносіны кіруючых дзейнікаў да рэлігіі і ў выніку гэтага рэлігія стаецца штораз жывейшым цэнтрам зацікаўленьня. Праўда, рэлігія на ёсьць нейкаю дзяржаўнаю справаю, але людзі на кожную рэч і зьявішча глядзяць па-рознаму, падобна і на рэлігію — адны глядзяць на яе сутнасьць, а другія толькі на яе дачаснае і часта прыпадковае поле дзеяньня.

На працягу гісторыі былі вельмі частыя выпадкі, калі дзяржаўныя дзеячы імкнуліся накінуць рэлігіі заданьне, якое зусім ня ўходзіла ў праграму яе дзеяньня, былі шматлікія выпадкі надужываньня аўтарытэту рэлігіі, горш таго — былі выпадкі, калі сьвятасьцю рэлігіі прыкрываліся злачыны валадароў. Напрыклад у Расеі ад часоў Івана грознага пасьлядоўнікі Іосіфа Валоцкага найгоршыя царскія злачынствы называлі «богопрэмудрое каварство гасудара». На Заходзе, калі падобнае формулы ня было, дык надужываньня рэлігіі так-жа не бракавала. Нават у пабожным сярэднявеччу побач шматлікіх сьвятых князёў і каралёў было нямала такіх, якія ў сваіх паводзінах не зьвярталі ніякае ўвагі на рэлігійныя прыпісы. А ў XVIII і XIX стагодзьдзях дык бязрэлігійнасьць была амаль паўсюдным прынцыпам дзеяньня кіруючых палітыкаў; дзеячы з рэлігійнымі перакананьнямі адсоўваліся ў цень. Але якія вынікі гэткага адношаньня да рэлігіі? Гісторыкі падрахавалі, што ад нараджэньня Хрыста да 1952 г. сьвет быў у поўным супакоі толькі 223 гады, а праз 1729 гадоў у каторай небудзь часьці сьвету былі войны, значыць лілася людзкая кроў.

Праўда вялі войны нават глыбока пабожныя валадары, але да гэтага іх змушала асяродзьдзе і паводзіны іншых. Сумныя гэта факты, але маюць багаты матэрыял для навукі ўсім тым, хто мае шчырае жаданьне нечага навучыцца з мінулых падзеяў і можна сьцьвердзіць пацяшаючы факт, што цяпер ёсьць гэткіх людзей нямала. Калі ў Эўропе рыхтавалася першая бязбожная крывавая рэвалюцыя, дык на другім канцы сьвету Юры **Вашынгтон** (1732-1799) разам са сваімі найблі-

жэйшымі супрацоўнікамі плянаваў, як асягнуць незалажнасьць Злучаных Штатаў Паўночнае Амэрыкі; у 1787 г. на адным з паседжаньняў сэнату падчас абмяркоўваньня пляну дзеяньня, агульнаведамы фізык і грамадзкі дзеяч Бэнжамін **Франклін** (1706-1790) унёс такую прапанову: «Грамадзяне, малемся! Я дажыў да глыбокае старасьці, але чым даўжэй жыву, тым лепш бачу, што Бог кіруе доляю людзкасьці. Верабей ня можа згінуць без Яго волі, дык і дзяржава ня можа паўстаць без Яго помачы». Сэнатары паслухаліся разумнае рады і Бог дапамог хутка асягнуць намечаную мэту; у 1789 г. Ю. Вашынгтон быў выбраны першым прэзыдэнтам незалежных ЗША. Падчас укладаньня канстытуцыі да новае дзяржавы прэзыдэнт Вашынгтон і сэнатары зноў зрабілі паводля рады Франкліна, што «трэба перш зьвярнуцца да Айца сусьвету, каб прасьвяціў розум». Апрацаваная імі канстытуцыя астаецца нязьмененаю да сёньня.

У мінулым стагодзьдзі рэдка дзе было чуваць аб пабожных людзях між дзяржаўнымі кіраўнікамі, так было і напачатку дваццатага стагодзьдзя Калі аднак пасьля першае сусьветнае вайны камуністычная рэвалюцыя ў Расеі паказала ўсім, да чаго вядзе бязбожнасьць у дзяржаўным кіраўніцтве, дык штораз часьцей у вольных дзяржавах пачалі даручаць адказныя становішчы людзям глыбока рэлігійным, або проста сьвятаром.

У Аўстрыі, дзе зруйнаваная вайною гаспадарка пагражала руінаю і камуністы ўжо плянавалі захапіць уладу ў свае рукі, выбрана канцлерам ў 1922 г. а. Ігната Зайпеля (1867-1932) і ён ажыцьцяўляючы на практыцы вытычныя папскіх сацыяльных энцыклікаў, здолеў аздаравіць гаспадарку і выратаваць краіну ад руіны. Потым ягонае пачынаньне праводзіў Дольфус аж пакуль ня згінуў ад камуністычных напасьнікаў у 1934 г.

Перад другою сусьветнаю вайною, калі ў Румыніі пабольшваліся нелады, прэм'ерам ураду стаецца патрыярх Міран. Падобна было некаторы час у Летуве, дзе для заспакаеньня партыйных супярэчнасьцяў прем'ерства даручана сьвятару. У Грэцыі ад 1944 г. аж да павароту караля рэгэнтам быў Атэнскі Архіяпіскам Дамаскін. У Славаччыне першым прэдыдэнтам незалежнае Славакіі у гадох 1939-44 быў а. Тісо, за гэта бальшавікі пакаралі яго сьмерцю.

У Партугаліі пасьля ваеннага перавароту ў 1926 г. нелады ў дзяржаве пабольшваліся штораз больш і эканамічна край зблізіўся да руіны. Тады на просьбу ваенных кіраўнікоў дзяржавы пераняў уладу др. Антон **Салязар** сьпярша толькі, ўк міністар фінансаў, потым ад 1932 г. так-жа, як прем'ер міністар. Ён правёў глыбокія палітычныя і сацыяльныя рэформы ў дусе хрысьціянскае сацыяльнае справядлівасьці згодна з папскімі сацыяльнымі энцыклікамі, але дадаючы ад сябе аўтарытатыўнасьць паводля ўласнае канцэпцыі і разьвязваючы ўсе партыі. Усенародны плебісцыт прыняў новую канстытуцыю і хутка настала стабілізацыя і аздараўленьне ў дзяржаве. Сёньня Партугалія лічыцца адною з найлепш зарганізаваных дзяржаваў і мае найбольш здаровую эканамічную гаспадарку. Гэткае становішча Партугалія заўдзячвае Антону Салязару аднаму з найбольш рэлігійных дзеячоў сучаснасьці. Ён агульна ведамы, як шчыры каталік, які ахвяраваў сваё жыцьцё Богу і народу. Ён кожны працоўны дзень распачынае малітваю і разважаньнем. Жыве ў скромным доміку, у якім сам зрабіў неабходную мэблю. Ня мае сям'і, ня прымае ніякіх дарункаў, ані візітаў. Партугалія да сёньня не навязала дыпляматычных зносінаў з Савецкім Саюзам.

Пасьля другое сусьветнае вайны вялася вельмі моцная камуністычная прапаганда ў Заходняй Эўропе і асабліва ў Італіі і Францыі. Суседнія дзяржавы з трывогаю прыглядаліся, што аднаго дня ў гэтых дзяржавах камуністы захопяць уладу ў свае рукі. У гэткім цяжкім палажэньні актывізуюцца дзеячы з радоў хрысьціянскае дэмакратыі; у Італіі Дэ Гаспары, у Францыі Робэрт Шуман, Жорж **Бідо** і інш. — крыж паволі распачаў свой наступ супраць серпа і молата, спатыкаючы вялічэзныя цяжкасьці перад сабою, але адначасна асягаючы з дня-на-дзень перамогі амаль у кожнай галіне грамадзкага жыцьця.

Цяперашні прэзыдэнт ЗША Двайт **Айзэнговэр** перад выбарамі на пытаньне аб адносінах да рэлігіі заявіў, што ён ад дзяцінства пераняў кліч ад сваіх бацькоў: «Баяцца Бога, гэта ёсьць пачатак мудрасьці». Потым ад амэрыканскіх дзяржаўных мужоў навучыўся, што «Гісторыі нашага краю нельга адзьдзяліць ад гісторыі багабойных сем'яў. Гэтым выясьняецца «цуд Амэрыкі». — Тыя, што закладалі падваліны незалежнасьці дзяржавы мусілі ўзяць сабе за падставу волю Стварыцеля, упісаўшы свае рэлігійныя пераканьні ў канстытуцыю. «Дык і мы маем абавязак выказаць, што наша вера, якая заўсёды адраджаецца, дарасла да таго, каб кінуць вызаў сучасным тыранам. Чымжа ёсьць нашае змаганьне з камунізмам, калі не змаганьнем бязбожнасьці з верай ва Усемагутнага? Ведаюць аб гэтым камуністы. Яны выключылі Бога са свае сыстэмы. Калі Бог вяртаецца, камунізм мусіць уступіць!»

Пасьля выбараў Айзэговэр палагодзіў усе рэлігійныя фармальнасьці згодна з прыпісамі прэзбітэрыянскае Царквы, да якое ён калежыць.

Пры гэтай нагодзе варта прыпомніць даўно забыты факт аб тым, што думаў Ленін аб каталіцызьме. Сёньня агульна ведама ягоныя напады на рэлігію агулам, ведамы ягоны праграмны кліч, запісаны ў ягоных творах, што для камуністычнае праграмы «рэлігія ёсьць опіюм і сівуха», дзеля гэтага плянаваў яе поўнае зьнішчэньне, але гэта было толькі жаданьне скалечанае матэрыялістыч-

наю лектураю і асяродзьдзем ментальнасьці, а ў глыбіні душы нават у гэтага запёклага ворага рэлігіі было пераканаьне, што Каталіцкае Царквы не пераможа ніякая сіла. Аб гэтым пераканаьні Ленін прагаварыўся прыпадкам. Перад рэвалюцыяю Ленін спатыкаўся ў Парыжу з адным каталіцкім сьвятаром, які працаваў як журналіст і пасябраваўся з ім. Потым пасьля рэвалюцыі той сьвятар адведаў Леніна ўжо у маскоўскім Крамлі. Там між іншым Ленін гаварыў свайму старому сябру: «...Глядзі людзтва йдзе да камуністычнага ладу... за 100 гадоў цывілізаваныя народы ня будуць мець іншае дзяржаўнае ўлады, як камуністычная. З тым аднак згаджуся, што між руінаў датыхчасовых інстытуцыяў і арганізацыяў ператтрывае толькі адна, гэта каталіцкая ерархія, бо толькі ў ёй мае мейсце пляновая асьвета і падрыхтоўка тых, каторыя пакліканы да вядзеньня іншых. У Каталіцкай Царкве ерархічныя годнасьці не пераймаюць у спадку, але каб стацца кіруніком, ерархам у Царкве найперш трэба выказаць сваю здольнасьць і падрыхтоўку. У гэтым, так мудрым, уладжаньні Царквы ляжыць вялікая маральная сіла каталіцызму. Дзеля тэтага ён трывае міма ўстрасеньняў блізка 2 тысячы гадоў. Гэта яго робіць моцным на сёньня і на будучыню. Сіла Царквы знайходзіцца ў яе маральным падкладзе, а не апіраецца на сіле гвалту і прымусу. Таму, паўтараю, праз 100 гадоў дойдзе на сьвеце да адное формы ўлады, да камунізму і затрымаецца адна рэлігія — каталіцызм». Не падаючыю свайго імені, сьвятар апублікаваў гэтыя думкі Леніна ў ватыканскай газэце «Осэрватурэ Романо» на пачатку 1924 г. Тут, як агулам у творах Леніна, праўда зьмешаная з фантазёрствам, але факт астаецца фактам, што сам тагачасны крэмлёўскі дыктатар і праваднір камунізму прызнаваў нязьнішчальнасьць Каталіцкае Царквы, якой абвесьціў вайну.

**А. Самавец.**

# Людзкая кроў ня гіне марна

— Мая цётухна, мая мілая, не адмоўце прыняць мяне старога пераначаваць у вас адну ночку. Ледва я дайшоў сюды, так зьнямогся за цэлы дзень, так зьнябыткаваўся, што ўжо і ногі адмаўляюцца слухаць. — Так прасіўся стары жабрак у цёткі Агаты, хата якое стаяла на краю вёскі.

— Ды я-б вас, дзеду, пусьціла, бо места ў хаце ёсьць, але мой мужык вельмі ня любіць жабракоў і гатоў вас сярод ночы выкінуць з хаты.

— А дзе-ж цяпер твой мужык, можа-б я з ім неяк дагаварыўся?

— Ён цяпер у млыне і там здаецца завозна, дык няма ведама калі вернецца, але затое добра ведаю, што чым пазьней вернецца, дык будзе тым больш злосны.

— Няўжо-ж ён чалавек бяз сэрца? Ці-ж ён, мая любая, выкіне мяне сярод ночы на гэты холад? — За вакном якраз сьвістаў вецер.

— Гэтага ў яго ня купіць. З ім, дзеду, цяжка ўжыцца. Ужо ў яго дзьве жонкі памерлі, а я вось ужо трэцяя.

— Дык гэта можа і не таму, што злосны; усяк у жыцьці людзям здараецца. Ды я яго ані чапаць ня буду, ані злосьціць ня буду; пераспплю дзе небудзь за-печчу, а раненька пайду сабе далей у сваю дарогу.

— Калі так наважыўся, дык аставайся, запечак у нас сапраўды такі шырокі, што там можна пераспаць.

— Вось дзякую табе, мая мілая, за добрае сэрца, хай табе любы Бог заплоціць за ўсе.

---

А тымчасам у млыне агацін мужык Карпей, чакаючы свае чаргі. прыслухоўваўся да гутаркі мужчын з далёкае вёскі. Якісьці пажылы барадач, пыкаючы люльку, апавядаў:

— ...Дык я-ж і кажу, што гэтая самая Гануля доўга плакаць па сваім мужыку ня будзе мець часу, бо напэўна доўга ўдавою не астанецца, гэта-ж такога багацьця ёй асталося, што ты ні падумай.

— Мусіць Якім, каб не твая старая, дык-бы сам да Ганулі пасватаўся — засьмяяўся нехта з гурту.

— От ты, Габрусь, сівых валасоў дажыў, а розуму не дажыў — адказаў злосна Якім, выняўшы люльку з зубоў — мне ўжо вонь трэба думаць, як з сырою пасватацца, а табе дурныя шкелі ў галаве.

— Але скажы ты, як скора чалавек мінаецца тут ёсьць, тут няма — казаў нехта збоку — гэта-ж я тапо ганулінага мужыка ўсяго тры тыдні таму бачыў тут у млыне, быў здаровы, вясёлы...

— Карпей Балацянік засыпай! — пачуўся моцны голас млынара і Карпей паволі пайшоў да сваіх мяшкоў. Ён аб нечым так паважна думаў, што ня рупіўся нават хутка засыпаць, як гэта рабіў звычайна. Відаць яму хацелася яшчэ пачуць нешта ад старога Якіма.

Змалоўшы і злажыўшы мяхі на воз, Карпей паволі ехаў дамоў і толькі час-ад-часу мармытаў сабе:

— Гм... гэткая нагода, каб хто толькі не захапіўся... Гануля...

Як калёсы загрукалі на двары, Агата хуценька выйшла памагчы Карпею скінуць мяшкі, але ён на ўзьдзіў ласкава адправіў яе назад у хату.

— Ты яшчэ ня сьпіш? І было чаго чакаць, я і

сам дам рады распрагчы, а мяшкі заўтра паскідаем. Ідзі, Агатка, у хату ды лажыся спаць.

Жабрак на стук калёсаў прачнуўся і чуў праз адчыненыя дзьверы гутарку Карпея з Агатаю.

— Казала, што ён вельмі люты, а тут чуваць нешта зусім іншае, што-б гэта магло значыць? — думаў пра сябе стары і не знайшоўшы адказу, адчуваў нейкі несупакой.

Агата ўвайшла ў хату і зачыніла дзьверы за сабою; стары схаваўся ў сваё запечча, але спаць ня мог. Ён бачыў, як Агата легла спаць, як яна хутка заснула; чуў, як зноў рыпнулі дзьверы і цiхенька, нават вельмі ціхенька ўвайшоў у хату Карпей, як ён вячэраў; заўважыў нават, што ён ані на абразы ня глянуў, ані не перахрысьціўся. Павячэраўшы, Карпей стаў сярод хаты і да нечага прыслухоўваўся, гледзячы на Агату. Потым ён шчыльна пазавешваў вокны, яшчэ раз прыслухаўся, у старога аж мурашкі забегалі па целе: «а што калі за мяне возьмецца? Гэта-ж не на дабро ён так вокны засланяе» — непакоіўся дзед.

Лёгкае храпеньне сьведчыла, што Агата сьпіць моцна і Карпей відаць з гэтага быў задаволены, але ягоныя паводзіны так занепакоілі старога, што ён увесь замяніўся ў зор і слух ды сачыў з-запечча, акрыўшы шматамі галаву, за кожным рухам гаспадара дому. Тымчасам Карпей на пальчыках падышоў да кутнага вакна і чагосьці там шукаў за шалёўкаю. Вось ён дастаў нешта доўгае і тонкае, укручанае ў шматку і хуценька раскруціў шмату — у руках блiснула звычайная пружына з парасону, але адзін яе канец быў завостраны. Карпей памацаў пальцам востры канец і накіраваўся да жончынага ложка — рукі ў яго трасьліся. Ён яшчэ раз да нечага прыслухаўся і раптам, выхапіўшы падушку з-пад галавы Агаты, накінуў падушку ёй на галаву і сам сеў на падушку, мігам адкінуў коўдра, расхіліў сарочку і адкінуўшы левую грудзіну, шпыгануў пруткам у сэрца.

Стары са страху зашыўся ў самы куток запечча і ўвесь калаціўся.

Карпей сядзеў на галаве Агаты аж пакуль сьціхлі яе апошнія ўздрыгі, тады акуратна абмыў парасонную пружыну і палажыў яе зноў за шалёўку. Пасьля акуратна абмыў жончыну грудзіну — знак ад раны быў такі невялікі, што яго пад жаночаю грудзінаю і заўважыць было цяжка. Усё агледзеўшы дакладна, Карпей выйшаў з хаты, каб пайсьці наказаць сваім родным, што «Агата раптам памерла». Прышоўшы да брата, Карпей «бедаваў»:

— Вось, браце, бяда; і што гэта за такое бяздольле да мяне прычапілася. Прыязджаю я да хаты з млына, увайходжу ў хату, а мая Агата ляжыць няжывая. Праўда, дзён са тры таму наракала, што ў сярэдзіне баліць, але хадзіла і рабіла як заўсёды...

За Карпеем і жабрак кулём выляцеў з хаты і колькі меў сілы ў старэчых нагах, сьпяшаўся да сярэдзіны вёскі. Там стрэнуўшы вартаўнікоў, дапытаўся, дзе жыве стараста. Старасту знайшлі хутка, бо яшчэ й ня спаў, якраз прыехалі нечага паліцыянты.

Толькі выйшаў з братавае хаты Карпей, як яго неспадзявана затрымалі «госьці» і адвялі за краты, а праз пару месяцаў замест ехаць у сваты да чацьвёртае багатае жонкі, атрымаў кару за свае злачыны.

Людзкая кроў ніколі марна ня гіне.

**А. Жменя.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ТЫДЗЕНЬ МАЛІТВЫ ЗА ЗЛУЧЭНЬНЕ ЦЭРКВАЎ.

Сёлета падобна, як і папярэднія гады, між 18 і 25 студзеня ўва ўсім каталіцкім сьвеце адбываліся ўрачыстыя багаслужэньні, каб вымаліць у Бога ласку наверненьня нехрысьціян і злучэньня ўсіх хрысьціян у адной Хрыстовой Царкве. Гэтая вялікая справа вымагае вялікае Божае помачы, шмат ахвярнае працы і перадусім шчырае малітвы таму і ладзяць штогод актавы малітваў у гэтым намераньні.

## ПАВАЖНЫЯ ЗЬМЕНЫ Ў ДЫПЛЁМАТЫЧНЫХ ПРАДСТАЎНІЦТВАХ ВАТЫКАНУ.

У зьвязку з падняцьцем да кардынальскае годнасьці Апостальскіх Нунцыяў у Парыжу, Мадрыдзе, Бэрне і Рыме, хутка адбудуцца паважныя зьмены ў асабовым складзе вялікае колькасьці Апостальскіх Нунцыятураў.

## СПРАВА АСЕДКУ АПОСТАЛЬСКАГА ПАСАДУ

Апіраючыся на адзін артыкул езуіцкага часапісу «Чівільта Католіка» аб эвэнтуальнай магчымасьці перанясеньня Апостальскага Пасаду за межы Італіі, рымскія газэты шырока расьпісваліся аб гэткай магчымасьці, дадаючы ад сябе розныя доказы быццам Ватыкан ужо падрыхтоўвацца да гэтае эвэнтуальнасьці, назначаючы шмат кардыналаў неітальянцаў, каб усюды магчы мець дастатковую колькасьць ерархаў для Кардынальскае Калегіі. Тым эвэнтуальным новым аседкам нібы мае быць Сан Франціско. У адказ на гэтыя пагалоскі, ватыканская газэта «Осэрваторэ Романо» апублікавала артыкул, які выказвае поўную беспадстаўнасьць усіх гэных прыпушчэньняў, бо Сьвяцейшы Айцец ня мае ніякага намеру пакідаць Рым. на старое запытаньне: «Quo vadis»? («Куды

йдзеш?) папа заўсёды адказвае: «Нікуды! Я астаюся тут».

### ЖАНОЧЫЯ МАНАСТЫРЫ НА ШЛЯХУ РЭФОРМЫ

У Каталіцкай Царкве ёсьць 1.152 розных жаночых чынаў разам з іхнымі разнавіднасьцямі і адгаліненьнямі. Усе яны маюць больш мільёна манашак. Таму што ўмовы сучаснага жыцьця шмат зьмяніліся ў параўнаньні да папярэдніх вякоў, дык ня дзіва, што некаторыя манашыя чыны знайшліся ў такім станові́шчы, якое паважна зьмяншае іхнюю дзейнасьць, а нават некаторым пагражае ліквідацыяю. Дзеля тэтага з пачыну Сьвяцейшага Айца летась у палавіне кастрычніка адбыўся ў Рыме міжнародны Кангрэс гэнэральных ігуменяў жночых чынаў, на якім разглядалася пытаньне супрацоўніцтва розных чынаў, актывізацыя іхняга жыцьця і нават зьмена вопраткі некаторых чынаў у кірунку ўпрашчэньня. Бязумоўна, што векавыя звычаі не зьмяняюцца на працягу некалькі дзён, аднак няма сумніву, што вынікі Кангрэсу праз некаторы час стануцца відавочнымі.

### ПАЛАЖЭНЬНЕ САВЕЦКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ МІСІІ Ў ПАЛЕСТЫНЕ.

Пасьля таго, як Савецкі Саюз 11 лютага г.г. парваў дыплёматычныя зносіны з Ізраэлем палажэньне савецкае праваслаўнае Місіі ў Палестыне сталася вельмі няпэўным. Да часу ўтварэньня Ізраіля ў Палестыне была ад даўных часоў праваслаўная Місія залежная перш ад царскае ўлады, а потым ад Зарубежнага Сыноду. Ізраільскія ўлады, пераняўшы кіраўніцтва краінаю, перадалі маемасьць Місіі прадстаўніком Маскоўскага Патрыярха, а цяпер, пасьля разрыву дыплёматычных зьвязкоў, ізраільскія ўлады далі да зразуменьня прадстаўніком Маскоўскага Патрыярха, што яны мусяць пакінуць Палестыну разам з савецкімі дыплёматамі. Таму, што маемасьць Місіі багатая і дае магчымасьць мець кантакт з усходнімі патрыярхамі, дык «манахі» Маскоўскага Патрыярха робяць стараньні, каб астацца ў Місіі.

### СУПРАЦЬКАТАЛІЦКАЯ ПРАПАГАНДА Ў ПОЛЬШЧЫ.

Распачатая ўканцы мінулага году ўзмоцненая хваля супрацькаталіцкае прапаганды, сёлета яшчэ больш узмоцнілася. Галоўная камуністычная польская газэта «Trybuna Ludu» дня 20 студзеня апублікавала лісту «сьвятароў-шпіёнаў», якія ўжо арыштаваныя з пагрозьліваю засемкаю пад адрасам іншых, неназваных паіменна, «заблытаных у шпіянаж царкоўных дзеячоў».

У Кракаве адбыўся суд над 7 сьвецкімі і духоўнымі дзеячамі з каталіцкіх арганізацыяў—усе абвінавачаныя паводля савецкае сыстэмы «прызнаваліся да шкоднае дзейнасьці супраць дзяржавы», дык ня дзіва, што ўканцы выдана сьмяротны прысуд тром сьвятром, чацьвёртага засуджана на дасьмяротную турму, а рэшта атрымала кары ад 15 до 8 год турмы.

Варшаўскае радыё 12 лютага абвінаваціла агулам польскіх біскупаў, як «ворагаў народу, якія падтрымоўваюць элемэнты варожыя да камуністычнага польскага ўраду».

### У ЮГАСЛАВІІ СУПРАЦЬКАТАЛІЦКІЯ АТАКІ ПРАДАЎЖАЮЦЦА.

Югаслаўскі камуністычны ўрад у сваёй варожасьці да каталіцызму нічым ня розьніцца ад іншых камуністычных «народных дэмакрацыяў». Дня 18 сьнежня мін. году югаслаўскі ўрад сарваў дыплёматычныя зносіны з Ватыканам і пры гэтай нагодзе ў прэсе паўторана розныя напасьлівыя закіды супраць Апостальскага Пасаду. Дня 15 студзеня тайная паліцыя зрабіла вобыск у канцылярыі Загрэбскае Біскупіі і ў памешканьні біскупа суфрагана, дарэмна шукаючы якіх колечы дакумантаў, каб абаснаваць свае напярод выдумныя абвінавачаньні супраць каталіцызму.

## БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### БАЦЬКАЎШЧЫНА.

#### Дзейнасьць савецкіх ерархаў.

Ад двох гадоў «Журнал Московской Патриархии» большую частку сваіх старонак прызначае выключна для савецкае прапаганды «за мір». Які характар мае гэтая прапаганда можа сьведчыць «пастырскі ліст» пінскага яп. Паісія (Образуева) надрукаваны ў Ж.М.П. Нр. 10 з 1952. Вось выняткі з яго (у перакладзе з расейскае мовы): «Узьлюбленыя айцы, браты і дзеці! Хай у нашых сэрцах заклік Канфэрэнцыі (У абароне міру) знойдзе належнае водгульле і поўнае спачуцьцё. Адклікнемся на яго жывою і заўсёднаю гатоўнасьцю служыць справе міру...» Далей пералічаюцца пагрозы для міру зразумела толькі з боку «крывавых англо-амэрыканскіх імпэрыялістаў» і потым зноў ідзе заклік: «Памножым, браты, нашыя стараньні ў абароне міру. Будзьма гарачымі патрыятычнымі пачуцьцямі любіць нашу магутную радзіму — Савецкі Саюз...» І так да канца. Аб Беларусі няма і ўспаміну. Відаць, што цяпер у СССР асталіся на волі толькі такія «ерархі», якія спаборнічаюць з камуністычнымі агітатарамі ў выкананьні дырэктываў партыі, а іншыя «дзесьці» зьніклі.

#### Вылюдненьне Беларусі прадаўжаецца.

Штогод савецкая прэса падавала лік вучняў



**Гасьцінец у Наваградчыне.**

у школах, але сёлета хоць «Звязда» ўжо некалькі раз гаварыла аб школьніцтве ў БССР, ніразу не падала дакладнага ліку вучняў, толькі раз зацеміўшы, што іх ёсьць больш, як 1.400 тысяч. Нават міністар асьветы БССР І. Ільюшын у сваім артыкуле аб «Народнай адукацыі ў новай пяцігодцы» абмяжоўваецца да частковых даных, агульнага-ж ліку вучняў не пдае. Відаць, што гэта цяпер няпрыемны факт, які міністар стараецца абыйці пустаслоўем, што сёлета павялічыўся лік сямігадовых і сярэдніх школаў, але ня кажа, што нават і гэтае павялічэньне зроблена коштам пачаткавых школаў, якіх відаць асталося так мала, што аб іх так-жа нідзе няма ўспаміну. Міністар кажа, што павялічыўся лік вучняў 5-х і 8-ых клясаў, але ні слова ня кажа аб тым, што сталася з іншымі клясамі. Гэтая моўчанка і недагаворы ёсьць грозным сьведчаньнем аб далейшым апусташэньні на Беларусі.

**Ахова помнікаў архітэктуры.**

Як паведамляе «Звязда» Нр. 285 з 3-XII-52 на абшары БССР узята пад ахову 125 родных помнікаў архітэктуры і некаторыя з іх будуць аднаўляцца. Між іншымі мае быць адноўлены полацкі Сафійскі сабор з XI в. Спаса-Еўфрасінінская царква з XII в. — але не для культу, а толькі, як помнікі архітэктуры. Там-жа паведамляецца, што «спэцыялісты цэнтральнае рэстаўрацыйнае майстэрні ў Маскве выявілі ў Спаса-Еўфрасінінскай царкве (у Полацку, не ў Маскве) пад пазьнейшымі пластамі тынкоўкі фрэскавы жывапіс XII ст. Гэты жывапіс будзе дасьледавацца, як помнік унікальнай каштоўнасьці». Разумеецца будуць дасьледаваць маскоўскія спэцыялісты.

**«Першы блін комам».**

У менскай «Звязьдзе» Нр. 289 з 9-XII-52 апублікавана рэцэнзія В. Вольскага на кнігу праф. М. Добрыніна «Беларуская літаратура. Старажытны перыяд» без паданьня мейсца і даты выданьня.

Рэцэнзэнт гаворыць, што гэта першы і адзіны дапаможнік па гісторыі беларускае літаратуры эпохі феодалізму (аб Янчуку цяпер больш не гавораць). Што нас цікавіць ў названай рэцэнзіі, дык гэта адносіны да рэлігіі так самога аўтара кнігі, які рэцэнзэнта.

З артыкулу відаць, што аўтар падходзіў да беларускае літаратуры і да гісторыі паводля маскоўскага рэцэпту і дзе толькі мог «арганічна злучваў» беларускую літаратуру ці то з Кіеўскай Русьсю, ці пазьней з Масквою — за гэта аўтара хваліць. Але відаць, што ў гэтым кірунку аўтар шмат перастараўся, бо дайшоў да таго, што проста перказваў пагляды расейскіх царскіх гісторыкаў, рэцэнзэнт кажа: «некрытычна адносіўся да выказваньняў афіцыяльных гісто-

рыкаў праваслаўнае царквы». Напрыклад супрацькаталіцкую палемічную літаратуру Дабрынін ацэньваў, як адну суцэльнасьць, ствараючы ўражэньне быццам толькі абаронцы праваслаўя змагаліся за інтарэсы народу. Тут ужо нават камуніст Вольскі мусіць сьцьвердзіць, што «Беларуская палемічная літаратура была далёка неаднароднай і ў сваім праваслўным лягэры». Погляды Дабрыніна на творы Хрыстофора Філялета, Лявона Карповіча, Васіля Цяпінскага — кажа Вольскі — ёсьць «паўтарэньнем пагляду царкоўных гісторыкаў», разумеецца расейскіх. Аб творчасьці Сымона Буднага, Філона Кміты, Тодара Еўлашэўскага, Андрэя Рымшы зусім нічога не ўспамінае. Зазначаючы гэты факт рэцэнзэнт баіцца дадаць, што гэта так-жа ідзе па той-жа лініі расейскіх гісторыкаў, каб зьменшыць беларускую літаратуру. Словам аўтар перастараўся.

Уканцы падаецца многазначны факт, што кніга была напісана парасейску і потым пераложана на беларускую мову, значыць цяпер прафэсар беларускае літаратуры на беларускім унівэрсытэце выкладае парасейску.

З усяго аднак відаць, што, як ні калечаць сучасныя акупанты слаўнага мінулага беларускага народу, яно ніяк не зьмяшчаецца на пракруставым ложку маскоўска - бальшавіцкіх імпэрыялістычных тэорыяў.

**АНГЛІЯ.**

**Літургічныя выстаўка.**

Праз тры дні 8-10 студзеня г.г. пры манастыры сьв. Філёмэны ў Каршольтон каля Лёндану адбывалася цікавая выстаўка, якую папулярна назвалі літургічнай.

З пачыну а. Карла Вард выстаўка была зарганізавана так, каб вернікі маглі лепш зразумець літургічныя абрады Службы Божае, іхнюю гісторыю і сэнс. У паасобных адзьдзелах глядач мог бачыць, як адпраўляецца Служба Божая ў гушчарах Афрыкі, як на мараплавах, як выглядаюць літургічныя кніжкі цяпер, як выглядалі ў часе прасьледаваньня рэлігіі ў Англіі, якая ёсьць літаратура аб сьв. Літургіі і дзе яе можна дастаць.

Асобны адзьдзел быў прысьвечаны для Беларускае Каталіцкае Місіі ў В. Брытаніі. Тут былі выстаўлены іконы, беларускія рэлігійныя часапісы і літургічная вопратка.

Даклады, фільмы і супольныя малітвы дапамагалі ўцяміць сэнс выстаўкі.

11 студзеня ў царкве сьв. Эльпіга ў Валінгтон а. Ч. Сіповіч адправіў Службу Божую ва усходнім абрадзе. Сьпяваў хор беларусаў з Лёндану, а літургічныя малітвы і абрады выясьняў а. Двайер. Царква была перапоўненая малельнікамі. Шматлікія ангельцы цікавяцца ўсходнім каталіцкім абрадам, а так-жа і Беларусьсю, аб якой большасьць з іх пры гэтай нагодзе даведваецца ўпяршыню. Гэткая-ж выстаўка была наладжана ў Каршольтон ўжо два разы ў папярэднія гады і абодва разы ўдзельнічала беларуская Каталіцкая Місія.

**З жыцьця «Руні».**

У нядзелю 15 лютага ў Лёндане адбылася зборка Лёнданскага адзьдзелу БАКА «Рунь». Распачалася яна Службаю Божаю, якую адправіў а. Ч. Сіповіч і сказаў казаньне аб Вялікім Посьце. Пасьля адбыўся супольны абед і даклад А. Надсона аб кардынале Ньюмане. На зборцы былі прысутныя госьці з Таварыства Украінскіх Студэнтаў Каталікоў «Обнова».

У сераду 18 лютага ўвесь Лёнданскі адзьдзел «Руні» быў у Альбэрт Галь, дзе выконвалася араторыя кампазітара Эльгара «Сон Геронцыя» на словы паэмы кардынала Ньюмана такога-ж назову.

**Тыдзень Студыяў «Руні» ў 1953 г.**

Галоўная управа БАКА «Рунь» у сваім бюлетэні Нр. 4 паведамляе, што чарговы Тыдзень Студыяў адбудзецца сёлета ў доме а.а. Марыянаў у Лёндане між 26 ліпеня і 2 жніўня. Тэма студыяў «Хрысьціянскі элемэнт у беларускай культуры». Кошты ўдзелу ў Тыдні 3 фунты і 10 шыл. Па дакладнейшыя інфармацыі зьвяртацца на адрас «Руні»: «Run», Marian House, Holden Avenue, London. N. 12.

**БЭЛЬГІЯ.**

**«Наперад» вышаў зноў.**

Пасьля трохгадовага перапынку аднавіў свой выхад часапіс «Дванаццаткі» — «Наперад», але гэтым разам ён вышаў друкам і ў пабольшаным абыйме. Рэдакцыя цяпер знаходзіцца ў Лювэне, дзе студыюе большая частка сяброў «Дванаццаткі».

**ГІШПАНІЯ.**

**«Апокрыф» пагішпанску.**

У гішпанскім часапісе «Nosotros» Нр. 1. з гэтага году надрукаваны ў перакладзе на гішпанскую мову «Апокрыф» Максіма Багдановіча. Пераклад зраблены прыгожаю гішпанскаю моваю і перакладчык Янка Сурвіла гэтым пачынам зрабіў добрую прыслугу для беларускае літаратуры, шкада толькі, што рэдакцыя зьмяніла назоў твору на «Кветку Васількаь (La flor azul).

**З. Ш. А.**

**З жыцьця беларускіх арганізацыяў і ўстановаў.**

● **Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў ЗША** мела 27 і 28 сьнежня м. г. свой Другі Зьезд. Пасьля малебна, які адслужыў уладыка Васіль яп. БАПЦ і прывітаньняў адбыліся справаздачы галоўнае ўправы і адзьдзелаў. Было нямала цяжкасьцяў у арганізацыйным жыцьці, але было такжа шмат асягненьняў, дык уступаючая ўправа

заслужана атрымала абсалютовую з падзякай. Новую ўправу выбрана ў такім складзе: старшыня — М. Тулейка, заступнік старшыні — М. Белямук, сакратар — Г. Орса, скарбнік — Г. Ганчарэнка, сябры ўправы — М. Сэрдэчэнка, С. Карніловіч і М. Заморскі. Уканцы намечана некалькі пунктаў да пляну працы на йдучы год.

● Сёлета а. Янка Тарасэвіч выдаў у студзені на шапірографе першы **«Лісток к Беларусам».** Новая выданьне мае сьціплую форму, усяго дзьве старонкі і выключна рэлігійны зьмест. Няма ведама, ці выданьне мае быць пэрыядычным.

● У Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва 14-га сьнежня м. г. адбыўся гадавы сход сяброў у памешканьні Беларускае Хаткі ў Нью Ёрку. Справаздача тымчасовае ўправы БІНМ выказала, што намечаны плян працы выкананы, не зважаючы на вялікія цяжкасьці. Цяпер БІНМ мае звыж 50 сяброў, выдаў два нумары «Запісаў» і падрыхтоўвае да друку некалькі твораў, адначасна рыхтуючыся да адкрыцьця паасобных сэкцыяў. Але для нармальнае працы Інстытуту нестае свайго памешканьня. Пасьля абсалюторыі ўступаючай управе і прадыскутаваньня ды прыняцьця статуту, тайным галасаваньнем выбрана сталую ўправу ў такім складзе: старшыня — доц. Я. Ліманоўскі, сябры ўправы: др. В. Тумаш, др. У. Сядура, Н. Арсеньнева і М. Панкоў. Кандыдаты ў управу і яны-ж Наглядная Рада: праф. Л. Акіншэвіч, яп. Васіль, Р. Крушына.

● Сёлета ў ЗША сталіся больш частымі, як у папярэднія гады **рэфэраты з галіны беларусаведы і аб Беларусі.** Дня 7 студзеня др. Ул. Сядура прачытаў ва Украінскім Літаратурна - Мастацкім клюбе ў Нью Ёрку рэфэрат на тэму: «Тэатральная доля драматургіі Янкі Купалы». Дня 15 студзеня Сп. А. Д. прачытаў рэфэрат для студэнтаў Колюмбус Унівэрсытэту на тэму: «Камуністычная тэорыя і практыка ў дачыненьні да нацыянальнае свабоды ў СССР», багата ілюструючы рэфэрат прыкладамі з гісторыі Беларусі. Дня 31 студзеня др. В. Тумаш прачытаў у Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва рэфэрат: «Беларускія культурныя ўплывы на Расею». 26-га лютага А. Адамовіч прачытаў рэфэрат у Крывіцкім (Беларускім) Навуковым Таварыстве рэфэрат: «Прырода ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў».

● Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва арганізуе **Усебеларускі Архіў,** які мае складацца з трох адзьдзелаў: архіўнага, музэйнага і бібліятэчнага. Дырэктарам Архіву зьяўляецца Мікола Панкоў. Экспанаты, друкі і ахвяры слаць на адрас: **Mr. Pankov Nicolaus, All. Whiteruthenian Archives, 56-49, 59, Place Maspot'h 78, L. I. N. Y., U, S. A.**

● Дня 14-га лютага ў Нью Ёрку Згуртаваньне Беларускае Моладзі ладзіла ў Ленокс Галь вялікі **Канцэрт-Баль.** Добра выканая канцэртная частка з харавымі сьпевамі, выступамі акордэаністкі і скетчам і добры настрой, які адчуваўся ўвесь час падчас балю сьведчыў аб тым, што імпрэза адбылася ўдала і ўсім прысутным прынесла вялікае задаваленьне.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Важная Канфэрэнцыя.

Прадстаўнікі экзыльных урадаў: Беларускае Народнае Рэспублікі, Грузінскае Дэмакратычнае Рэспублікі і Украінскае Народнае Рэспублікі ў днёх 14-16 лютага г. г. на канфэрэнцыі у Карльсруэ абмяркоўвалі пытаньні: супрацоўніцтва між названымі ўрадамі, каардынацыю антыбальшавіцкага вызвольнага змаганьня і адносін да Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня. Канфэрэнцыя закончылася поўным узгадненьнем датычна ўсіх абмяркоўваных пытаньняў.

## ФРАНЦЫЯ.

### Беларускія Каляды ў скаўцкім гуртку.

Гурток француcкіх скаўтаў парыскага прадмесьця Нойі падчас мінулых Калядаў ажыцьцявіў цікавую думку: паказ сьвяткаваньня Нараджэньня Хрыста ў розных краінах. Група скаўтак, да якое належыць беларуская скаўтка Івонка Шыманец, вельмі ўдала паказала звычі Сьвятога Вечару ў беларускай хаце з Куцёю, з калядоўшчыкамі, ну і, зразумела, з паясьненьнямі беларускіх калядных абрадаў. Між іншых паказаў беларускі выканана найлепш, выклікаючы агульнае зацікаўленьне ў глядачоў так рэлігійнымі звычаямі, як і самою Беларусьсю.

### Гадавы Сход АБРФ Адзьдзелу Ля Крэзо.

Адзьдзел у Ля Крэзо Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі дня 1-га лютага меў свой гадавы сход. Справаздачы дагэтуляшняй Управы і Рэвізійнае Камісіі выказалі і пацьвердзілі суцяшаючы факт, што хоць арганізацыя мела некаторыя недахопы, але агулам магла выказацца паважнымі асягненьнямі ў праробленай працы і здабыць сабе належны аўтарытэт як між суродзічаў, так і іншых нацыянальнасьцяў. Новую ўправу выбрана ў такім складзе: страшыня — Б. Нагорны, сакратар — Ю. Гасьцееў, скарбнік — М. Булыга.

### На выдавецкай ніве.

Беларуская Сэкцыя пры Хрысьціянскім Сындыкаце Работнікаў у Францыі сёлета пачала выдаваць свой інфармацыйны бюлетэнь **«Сындыкальныя весткі».**

Выдавецтва «Моладзь» сёлета зрабіла сапраўды паважны ўклад у літаратуру беларусазнаўства на эміграцыі сваім другім выданьнем кнігі **П. Каваля «Беларусь у датах, ліках і фактах».** На 108 старонках зьмешчаны багаты інфармацыйны матэ-

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. **Directeur : Abbé L. Horosco.**

рыял з усіх галінаў беларускае культуры. Уканцы ёсьць карта Беларусі. Прыгожая каляровая вокладка з беларускім арнамэнтам робіць і вонкава добрае ўражэньне. Кніга каштуе 450 фр., яе можна набыць у рэдакцыі «Моладзі».

**ПАДЗЯКА.**

Трусаў Аўгень гэтым шляхам перасылае сваю шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам, якія падтрымалі яго ў вялікім няшчасьці і дапамаглі шчасьліва перанесьці цяжкія дні жыцьця.

# Абразкі з жыцьця

## ДА КОЖНАГА БОГ ПРАМАЎЛЯЕ ПА-РОЗНАМУ.

Перад другою сусьветнаю вайною ў ваколіцах Баранавіч быў шырока ведамы бязьлітасны сэквэстратар Р-кі. Калі прышлі бальшавікі, ён стаўся настаўнікам і вырозьніваўся спаміж іншых тым, што заўзята займаўся бязбожнаю прапагандаю. І вось гэтаму чалавеку трапіўся выпадак, які яго зьмяніў да непазнаньня. Калі першыя нямецкія самалёты летам 1941 году бамбілі Баранавіцкую станцыю, Р-кі прайходзіў праз чыгуначны шлях і, ня маючы куды дзецца, схаваўся каля вялікага кастра дроў. Раптам яму пачулася, быццам нехта кажа: «Уцякай адгэтуль!» Ён аглянуўся, нідзе нікога ня было, дык зноў сеў, але той-жа голас яшчэ мацней азваўся: «Уцякай хутчэй!» У страху, доўга ня думаючы, Р-кі перабег да другога кастра. Толькі там сеў, як бомба разьесла дазваньня папярэдні касьцёр. І вось калішні недаверак, седзячы пад кастром, пачаў маліцца і потым пры кожнай нагодзе апавядаў сваім знаёмым і незнаёмым людзям аб вялікай Божай міласэрнасьці да сябе. Толькі, ці доўга ён будзе памятаць аб гэтай міласэрнасьці?

## КІНЬ ЗА САБОЮ, ЗНОЙДЗЕШ ПЕРАД САБОЮ.

У часе першае сусьветнае вайны маленькі Л., падобна, як шмат тысяч беларускіх дзяцей, стаўся амаль круглым сіратою, бо бацька быў на фронце, а маці хадзіла штодня капаць акопы. Калі малому дакучаў голад, ён часта заходзіў да вясковае краўчыхі і там або яна сама, або яе стары бацька давалі яму штоколечы, каб «кішкі ня гралі марша».

Ад таго часу мінула каля паўтара дзясятка гадоў і жыцьцё паважна зьмянілася. Малы Л. падняўся на ногі, пайшоў у людзі і пераехаў жыць у горад. І вось аднойчы старому бацьку краўчыхі сталася няшчасьце — яго засудзілі на 3 месяцы ў турму. Нявымоўна сумна і горка было старому за кратамі, да таго і голад дакучаў. Даведаўшыся аб гэтым здарэньні, Л. час-ад-часу прынсіў старому падаянку.

Адсядзеўшы тры месяцы стары вышаў з турмы, прышоў да Л. і цалуючы яго, як роднага, гаварыў:

— Ці думаў я, унучку, як табе калісь даваў хлеба, што ты мяне на старасьць будзеш карміць, ды яшчэ дзе? У праклятай турме! Не дарма кажуць людзі: кінь за сабою, знойдзеш перад сабою.

## ЗАКАМЯНЕЛЫ КРЫВАПРЫСЯЖНІК.

У Міры, Стоўпцах і Наваградку ўсе судзьдзі адвакаты ведалі Базыля Маханеўскага, як лысага каня. Ён быў сьведкам ўва ўсіх тых справах, якія былі чыстым круцельствам. Прысягаў Базыль заўсёды на жонку і на дзяцей, што гаворыць шчырую праўду.

Людзі ня раз лаялі Базыля, а старэйшыя гаспадары ўпэўнена цьвярдзілі: «Накліча ён ліха на сваю галаву». І сапраўды так сталася. У часе польска - бальшавіцкае вайны каля базылёвае вёскі затрымаўся фронт і пасыпаліся на вёску кулі і снарады. Першы снарад, які ўпаў у вёску, трапіў у базылёву хату, сьмяротна параніў жонку, забіў адно дзіця, а другое пакалечыў. Сам Базыль астаўся непашкоджаны. Больш нікога ў вёсцы не забіла дык усе былі перакананы, што гэта Божы палец закрануў крывапрысяжніка. Базыль так-жа ўбачыў на сабе Божую кару і нейкі час не паказваўся ў судзе, але потым ажаніўся другі раз, пачаў заглядаць у кілішак і забыўся аб Божай перасьцярозе.

## ХТО ПАД КІМ ЯМУ КАПАЕ, ТОЙ САМ У ЕЯ ЎПАДАЕ.

Графіня П., аўдавеўшы, мела вока на свайго інж. лясьнічага, але на перашкодзе яе пляну, была жонка і дзеці лясьнічага. Начытаўшыся крымінальных раманаў, графіня займела шалёную думку. Калі прыехаў яе сын з унівэрсытэту на ваканс, яна наладзіла вялікае паляваньне, лясьнічага выправіла «па справах» у горад, а ягонай жонцы і дзецям прыслала прыгожы пачастунак з рознымі пячэньнямі і лікёрамі. Усё йшло гладка па вызначанаму пляну, але стаўся на паляваньні адзін зусім непрадбачаны выпадак. Сын графіні пагнаўся на кані за раненым лосем аж 45 кілямэтраў і вяртаўся назад даволі змучаны, дык па дарозе заскочыў у хату лясьнічага, каб чым падсілкавацца. Жонка лясьнічага доўга ня думаючы і нічога ліхога не падазраючы, дала яму лікеры і пячэньні, якія атрымала ад графіні і думала пачаставаць імі госьцяў. Той выпіўшы кілішак лікеру, накінуўся на пячэньне, але раптам асунуўся на падлогу. У хаце ўзьнялася трывога, хутка зьявілася графіня і ўбачыўшы труп сына, а на стале сваё пячэньне, зьбялела і прамовіла праз заціснутыя зубы:

— Яго ўжо няма чаго ратаваць, ён выпіў атруту, якую я падрыхтавала сям'і лясьнічага. Я сама атруціла свайго адзінага сына... Хто пад кім яму капае, той сам й яе ўпадае. — Пры гэтых словах яна выняла з торбачкі рэвальвэр і пусьціла сабе пулю ў лоб.